№ 6/2016(1057)
ISSN 0320-7579

# Бярозка № 6

**ЛЕТНЯЕ ЧЫТАННЕ**
І ТЭОРЫЯ НАЧНЫХ МАРАЎ

LEVEL 80
**SECRET FILES**

**4 ХАРАКТЭРНЫЯ ПРЫКМЕТЫ НЕСЯБРОЎСТВА**

Фота Сашы Савіч

# У пані Элізы

*Дом-музей Элізы Ажэшка ў Гродне прадстаўляе*



Камін, які памятае гаспадароў і як пры ім чыталіся творы Міцкевіча, Славацкага, Пушкіна, Лермантава… Гэты камін несумненна бачыў Францішак Багушэвіч, які называў Элізу Ажэшка яснавяльможнай пані Арэшчыхай. Такі сэнс мае яе польскае прозвішча — Orzeszkowa (Арэшкава).



Свой пісьмовы стол Эліза Ажэшка называла «бюркам». Выглядаў ён трошкі іначай, чым гэты, музейны. Над сталом у масіўных рамах — партрэт бацькі пісьменніцы, Бенедыкта Паўлоўскага, і маці, Францішкі Паўлоўскай з Каменскіх, з дачкой Зюняй. Так у дзяцінстве называлі будучую аўтарку шэдэўра «Над Нёманам». Чыталі? Пачытайце абавязкова.



У салоне пані Элізы стаяла некалі падобная зашклёная шафа. У ёй гаспадыня берагла залатое пёрка і бранзалецік з выявай Гродна.



Этажэрку з кнігамі ўпрыгожваюць сурвэткі. Пані Эліза вельмі любіла карункі…

*Дзе гэта можна ўбачыць: Гродна, вуліца Элізы Ажэшка, 17.*

# Структура рэальнасці



*Ліза Карчэня*
*9 клас, гімназія № 10, Мінск*

Адно з самых загадкавых пытанняў — пра структуру рэальнасці. Што гэта? Як з’явілася? Як працуе? Адказы маглі б дапамагчы разабрацца ў тым, што такое час і прастора. Я раю дазнацца пра тыя тэорыі, якія або не лічацца навуковымі, або ўвогуле ніяк не ўспрымаюцца. Навошта яны існуюць? А проста людзі любяць верыць у нешта, што трапляе за межы абумоўленасці.

Першая з такіх тэорый — пра будову рэальнасці — тэорыя, якая сцвярджае, што Сусвет — маленькая нервовая вуза[1] жывога арганізма. Як з’явілася такая тэорыя? Заўважылі, што некаторыя зоркавыя сістэмы выглядаюць, як раёк[2] чалавечага вока, што нараджэнне вузы падобнае да смерці зоркі, а наш Сусвет — да вузы мозга. Тады нехта сказаў: «А чаму Сусвет не можа быць вузай мозга большага арганізма? Можна сцвярджаць, што і ў нашай галаве існуе мноства іншых Сусветаў. А таксама лічыць, што час — перыяд жыцця арганізма, у якім знаходзіцца Сусвет». Але гэтую тэорыю даказаць вельмі цяжка, і нават немагчыма, таму што паводле яе мы занадта маленькія, каб дайсці да межаў Сусвету, якія з часам ад нас аддаляюцца.

Другая тэорыя — пра віртуальны Сусвет. Некаторыя навукоўцы сцвярджаюць, што Свет — гэта толькі віртуальная рэальнасць пэўнай камп’ютарнай праграмы. Сусвет існуе як чатырохмерная праекцыя, якую задае праграма. І кожны наш крок, кожная думка ўжо запраграмаваны гэтым камп’ютарам. Таму тыя ці іншыя падзеі адбываюцца пэўным чынам. Тэорыя віртуальнага Сусвету з’явілася пасля стварэння ЭВМ і распрацоўкі гульняў-сімулятараў. Яна тлумачыць існаванне парадоксаў і чорных дзірак, а таксама развіццё Сусвету. Першае ў якасці памылкі праграмы, а другое — як стварэнне новых загадаў у праграме.

Трэцяя тэорыя — самая нелагічная і дзіўная: тэорыя начных мараў. Я лічу, што кожны аднойчы марыў. І гэтая тэорыя сцвярджае, што чалавек у сваім жыцці знаходзіцца не ў адной рэальнасці і нават не ў дзвюх. Кожны новы раз, калі нараджаецца чалавек, ён трапляе ў тую рэальнасць, якую бачыў у начных марах самай апошняй. І менавіта яе ён лічыць за сапраўдную. Але калі чалавек засынае, то апынаецца ўжо у іншай рэальнасці. Ён там жыве, размаўляе, знаходзіць новых знаёмых і займаецца сваімі справамі. Рэальнасці ў марах змяняюцца на працягу ўсяго жыцця. Тэорыя робіць разуменне рэальнасці больш складаным, але дапамагае ў разуменні розных філасофскіх пытанняў. Што адбываецца з чалавекам перад яго нараджэннем? Што будзе з ім пасля яго смерці? Як ствараюцца мары? Тэорыя начных мараў можа стаць падмуркам для вывучэння падсвядомасці чалавека — яшчэ адной таямніцы Сусвету.

---

*[1] Тут мы, дружа, дзеля твайго кругагляду прыводзім біялагічнае паняцце «клетка», як яно гучыць паводле Кароткага расійска-беларускага фізіялагічнага слоўніка (Укладальнікі: А.Стасевіч, С.Варыёцкі; Мінск: Тэхналогія, 1993).*

*[2] Паводле таго ж слоўніка — радужная абалонка вока.*




# Жыццё ў радасць

***У 1913 годзе на свет з'явілася «Паліяна» — кніга амерыканскай пісьменніцы Элінар Портэр, што стала ўпадабанай не толькі дзецьмі, але і дарослымі. Прайшло больш за 100 гадоў, а гісторыя пра жыццярадасную дзяўчынку не губляе хараства. Закладзеныя ў творы ісціны па-ранейшаму робяць думкі чытачоў светлымі і радаснымі...***

Я прачытала «Паліяну» нядаўна. Да гэтага мяне падштурхнулі ўспаміны: яшчэ ў дзяцінстве я палюбіла аднайменны спектакль пра прыгоды гераіні Элінар Портэр. Бывала на ім некалькі разоў, але сюжэт не трымаўся ў памяці: я была занадта маленькай глядачкай. Але як мяне заварожвала дзеянне на сцэне!

Кніга апавядае пра адзінаццацігадовую дзяўчынку, на долю якой выпала нямала нягод: жыццё ў беднасці, страта бацькоў, пераезд у незнаёмы горад да строгай цёткі. Але Паліяне ўдаецца прайсці праз выпрабаванні і не ўпасці духам. Бо бацька навучыў яе гуляць у радасць! У любой сітуацыі дзяўчынка знаходзіць нешта добрае і жыве, саграваючы свет цяплом сваёй усмешкі.

Паліяна настолькі шчырая, энергічная і бескарыслівая, што ў яе атрымліваецца знайсці ключык да сэрца кожнага жыхара яе гарадка. Дзяўчынка змяняе да непазнавальнасці лад жыцця розных людзей, злучаючы ўсіх гульнёю ў радасць. Але яе цётка… Яна скептычна ставіцца да надта аптымістычных поглядаў.

Паліяна шмат каму можа нагадаць няўрымслівую Пэпі з твора Астрыд Ліндгрэн. Абедзве дзяўчынкі радуюцца жыццю і робяць усё магчымае, каб ашчасліваць іншых людзей. Але ў Паліяны няма ні магутнай сілы, ні белага каня, ні татыкараля на далёкім востраве. Яна спраўляецца з цяжкасцямі дзякуючы веры ў лепшае. Гэтым яна мяне і натхняе.

Я таксама стала шукаць ва ўсім нагоду для радасці. І мне гэта спадабалася! Я стала больш думаць пра тое, за што магу дзякаваць жыццю, перастала канцэнтравацца на часовых няўдачах. Такая вось карысная кніга.

***Ксенія Сасніна***




# У свеце немагчымага

Гары Потэр узмахвае чароўнай палачкай, Агнягрыў рыхтуецца да скачка, Аліса ляціць на планету, якую нядаўна адкрылі, Артур, схапіўшы Селенію за руку, бяжыць да поезда…

І сэрца кожнага хлопчыка ці дзяўчынкі замірае ў чаканні немагчымага…

Зазірнуўшы ў свае дзіцячыя ўспаміны, кожны дарослы ўбачыць там маму ці бабулю з кніжкай у руках. А сам ён, яшчэ маленькі, з цікаўнасцю слухае казкі пра Спячую прыгажуню, Аладзіна, Снежную каралеву. Ён смяецца з недалёкага людажэра, ледзь не са слязьмі слухае казку пра семярых казлянятак, сціскае кулачкі, злуючыся на нядобрага чараўніка. Малы чалавек жыве ў свеце фантазіі і магіі, праводзіць дні ў чаканні чарговага вечара і новай дзівоснай гісторыі.

Але дзеці растуць і свет расце разам з імі. І паступова прыходзіць разуменне, што залатыя рыбкі адмаўляюцца выконваць жаданні, далёка не ў любой лямпе сядзіць джын,

## Як весці літаратурны дзённік?

*Літаратурны дзённік — гэта сшытак з уражаннямі ад прачытаных кніг. Дапамагае сістэматызаваць творы і прасачыць зменлівасць чытацкіх пераваг з цягам часу. У цябе яшчэ няма такога? Трэба завесці!*

### ВАРЫЯНТЫ ФАРМАТУ

* Сапраўдны, з запісамі, зробленымі рознакаляровымі асадкамі, маркерамі, алоўкамі. Можна ўклейваць цытаты (каб візуальна вылучыць іх), дадаваць ілюстрацыі ці рабіць замалёўкі самастойна.
* Электронны. Дазволіць эксперыментаваць са шрыфтамі. Можна завесці асобны блог пад літаратурны дзённік.

### РАЗМЯШЧЭННЕ ІНФАРМАЦЫІ

* Назва і аўтар.
* Год напісання.
* Колькасць старонак і раздзелаў.
* Час чытання (адзін вечар / тыдзень / месяц).
* Кароткае апісанне (анатацыя) сваімі словамі.

### АСНОЎНАЯ ЧАСТКА МОЖА СКЛАДАЦЦА З АДКАЗАЎ НА ПЫТАННІ:

* Як ты даведаўся аб кнізе? Дзе купіў / узяў / знайшоў яе?
* Ці натхніла цябе кніга? Калі так, то на што.
* Шкадуеш ты пра выдаткаваны на прачытанне твора час? Чаму?
* Хацеў бы ты нешта выправіць у сюжэце?

* Які сэнс нясе кніга?
* Галоўная выснова.
* Каму б (якой аўдыторыі) ты параіў прачытаць яе?

**ПЕРЫЯДЫЧНАСЦЬ ЗАПІСАЎ**

Старайся не забываць пра існаванне дзённіка і пастаянна запісваць свае ўражанні. Няма часу? Пакінь пазнаку з назвай кнігі і тэзісным планам, па якім можна апісаць твае эмоцыі ад твора. Заўсёды адзначай дату запісу, каб ведаць, калі ты прачытаў тую ці іншую кніжку.

**АЎТАРСТВА**

У канцы дзённіка завядзі старонкі для біяграфіі аўтараў, якія варта вывучаць перад чытаннем кніг. Што з жыцця пісьменніка цябе ўразіла больш за ўсё? Ці ёсць яго прататып у творы? Па якіх характэрных літаратурных прыёмах можна даведацца, што гэта яго тэкст? Багаты ў яго слоўнікавы запас? Якія каронныя фразы ты вылучыў у яго творах?

**НА ПАЛЯХ**

На асобных старонках пакідай запісы такога тыпу:

* Спіс твораў, калі яны знаходзяцца ў адной серыі.
* Спіс кніг, якія ты б хацеў прачытаць.
* Незразумелыя словы, якія ты сустрэў на старонках кнігі.
* Крылатыя выразы і цытаты, якія ты б хацеў запомніць.

**ПАРАДА**

Акрамя літаратурнага дзённіка можна весці сшыткі для ўражанняў ад прагледжаных фільмаў. Канцэпцыя тая ж!

*Сяргей Грудніцкі*




а тыя звяры, што ўмеюць размаўляць, перасяліліся ў нейкія іншыя месцы, куды няма дарогі. Казкі Перо і Гаўфа ўжо не цікавыя для падлеткаў…

Але казка проста так не памірае!

Так, падлетку не цікава ўжо слухаць гісторыю Папялушкі, ён не наіўнае дзіцятка, бо ўмее ўжо не толькі чытаць і пісаць, але ведае аб існаванні Сонечнай сістэмы і Сусвету ў цэлым, гоначных матацыклаў і камп'ютарнай тэхнікі. Але казка куды больш разумная, чым усе гэтыя веды, — яна, нібыта змяя, згінаецца ў свядомасці падлетка, змяняючы назву «казка» на больш сучасныя словы: «фэнтазі», «навуковая фантастыка», «комікс». У рэшце рэшт, прыгодніцкія і фантастычныя фільмы — гэта таксама казкі, і дарослыя людзі, даведаўшыся пра выхад на шырокі экран новага фільма, натоўпамі накіроўваюцца ў бок кінатэатраў. У першую чаргу дзеля таго, каб успомніць тое дзіцячае, амаль забытае пачуццё, якое выклікала ў іх калісьці чарговая дзіцячая казка.

Убачыць адважны ўчынак, сапраўднае каханне, проста добрага чалавека…

І сэрца зноў затрымціць ад эмоцый, і розум перапоўніцца энергіяй ад захаплення. На імгненне зноў мы ўсе ператвараемся ў дзяцей, здольных радавацца матылю, дотыку ветрыку, сонечнаму праменьчыку. Толькі цяпер на п'едэстале не тры парсюкі і Віні Пух, а Міс Марвел і Жалезны Чалавек...

***Аліна Палагіна,***
***лаўрэат Магілёўскага гарадскога конкурсу юных пісьменнікаў,***
***10 «А» клас, СШ № 43, Магілёў***

# Па матывах твора



У сучасным свеце з'явілася мноства спосабаў даведацца пра сюжэт мастацкай літаратуры без прачытання першакрыніцы — кнігі. Гэта фільмы, коміксы, гульні, кароткія зместы... Але, вядома, найлепш усё ж спачатку ўзяцца за тэкст. Чытаючы твор, ты несвядома развіваеш фантазію: трэба ўявіць герояў і падзеі, якія з імі адбываюцца. Варта толькі пачаць чытаць, як уяўленне ўжо намалюе карціну таго, пра што чытаеш, да самых драбніц. Чаго не скажаш пра коміксы і фільмы: там за нас ужо пастараліся розумы мастакоў і рэжысёраў, наш мозг спатрэбіцца толькі для засваення інфармацыі.

Зусім іншая сітуацыя ўзнікае ў тым выпадку, калі трэба прачытаць твор літаратурнага жанру за кароткі перыяд (задалі ў якасці дамашняга задання), а магчымасці (і, быць можа, жадання) чытаць менавіта цяпер няма. Што рабіць? Па-першае, варта пачаць і здужаць хоць бы першую главу. Магчыма, кніга настолькі зацікавіць, што ты не зможаш адарвацца, пакуль не дойдзеш да апошняй старонкі. Пачатак зусім не спадабаўся, а сам твор лічыш не вартым увагі ці нават дрэнным? Тады варыянт з фільмам для цябе. Толькі пасля яго прагляду не палянуйся і зазірні ў кароткі змест: часам кінастужкі здымаюць усяго толькі «паводле».

А ці існуе такі выхад з сітуацыі, пры якім чытач і «дакранецца» да радкоў вялікіх паэтаў і пісьменнікаў, і пры гэтым не патраціць ні кропелькі часу ў кампаніі з кнігай? Безумоўна, існуе. Аўдыякніжкі! Чамусьці пра іх шмат хто забывае. Выкарыстоўваюць запісы дыктараў тыя, хто беражэ час і зрок. Няма нічога прасцей, чым ехаць у транспарце або ісці ў школу і праслухваць творы класікаў, а не сядзець у сацыяльных сетках або гуляць у гульні! Так, стапрацэнтнага засваення, хутчэй за ўсё, не атрымаецца — ты не будзеш цалкам засяроджаны на кнізе, але ж асноўную частку ўловіш! А гэта тое, што трэба.

Асабіста я да аўдыякніг стаўлюся неаднназначна, а да іх дапамогі звяртаюся толькі тады, калі задаюць велізарныя складаныя творы. Усё-ткі звычайная кніга куды больш інфарматыўная: чытаючы цікавую для цябе літаратуру на папяровых або электронных носьбітах, можна спыніцца, каб паразважаць на прапанаваную аўтарам тэму, вылучыць некаторыя важныя моманты, перачытаць асобныя радкі па некалькі разоў... З аўдыяверсіяй гэтае хараство губляецца.

Чытаць кнігі, не важна ў якім выглядзе і фармаце, можна і трэба як мага часцей!

***Сяргей Грудніцкі***




$$\oint_{\gamma} f(z)dz = 2\pi i \sum Res(f, a_k)$$

$$f(x) = \sum_{n=0}^{\infty} \frac{f^{(n)}(0)}{n!} x^n$$

Я ёсць я

Мастачка Юлія Усава

# Гонка за лідарам

— Не, я адмаўляюся разумець, што з табой адбываецца, Лазарава! — Мая Алегаўна строга паглядзела на Лізу і закрыла журнал. — На працягу чвэрці стабільна коцішся ўніз. Добра, каб толькі па матэматыцы, але ж і мовы і твая любімая руская літаратура! А не так даўно лічылася лепшай…

Ліза свідравала дзірку ў стале і недалёка была да мэты. Яшчэ трохі — і…

Ах, калі б усё было так проста! Захацеў — падцягнуўся, не захацеў — з'ехаў да троек і ўся справа. Быццам жыццё абмяжоўваецца выключна паспяховасцю! Ды калі так… Хоць… Ліза ўздыхнула і панеслася ў глыбіні асабістых праблем.

Мая Алегаўна мае рацыю. Не так даўно Ліза лічылася лепшай па літаратуры. Нават па дзвюх: і па рускай, і па беларускай. На конкурсах чытальнікаў дыпломы атрымлівала. Сачыненні на «дзясяткі» пісала, адной левай, бо ляўша. Чытала класіку і сучасную прозу, не адрываючы вачэй. Вершы на памяць завучвала цэлымі кнігамі, выключна для сябе. І крыху для іншых. І была амаль што шчаслівай. Амаль што…

Бо матэматыка з фізікай ёй не даваліся. Ніяк.

Спачатку яна паспрабавала прыстасавацца: сярэдні бал — ён і ў Афрыцы сярэдні. Будзе ў цябе «дзясятка» па пяці прадметах (што цалкам магчыма), будзе «дзявятка» яшчэ па пяці (не пытанне, здолеем), плюс дзве «шасцёркі» — складаем, дзелім на дванаццаць (а не ўсё ў нас так дрэна з матэматыкай!), атрымліваем даволі прыстойны для любога каледжа і нават для ВНУ бал. Была б там праблема!

І прыстасавалася — то рэферат па фізіцы настрочыць, то кантрольную спіша. Так за чвэрць выходзіла «сямёрка» — і мэта была дасягнута. Паступаць яна ўсё роўна будзе на гуманітарны факультэт — няма сэнсу напружвацца.

І тут у класе з'явілася Наташа. Высокая, ладная, з багатай капой рудых кучаравінак і «дзясяткай» па матэматыцы. Хлопчыкі раптам захваляваліся і перакінуліся да новай каралевы. А Ліза засталася адна. Як і ўсе астатнія каралевы — клас талентамі абдзелены не быў.

— Такая вось мужчынская сутнасць, — рэзюмавала Ліза, пырхнула і адказала на ўдар урыўкам з купалаўскага «Кургана». У мінулым жыцці за «дзясяткай» і захопленым водгукам настаўніка рушылі тры-чатыры запрашэнні ў кавярню або моладзевы клуб. А тут — абыякавае маўчанне.

Нават Лёня Кулік праігнараваў яе поспех, бо захапіўся рашэннем матэматычнага рэбуса ў Наташыным сшытку. А не так даўно кляўся ў вечнай адданасці.

Ліза спрабавала супраціўляцца: напісала ў насценгазету паэму пра адданасць хлопчыкаў, правяла на адным дыханні вечар у Дзень Святога Валянціна, перамагла ў абласным этапе прадметнай алімпіяды. І адчула, што засталася адна — без увагі хлопчыкаў.

*Ёсць у Аўстраліі каля гарадка Вігнен невялікая гара, усяго 653 метры ў вышыню. Знакамітая яна тым, што ўвесь час дыміць. З-за гэтага да 1830 года яе лічылі адзіным дзеючым вулканам Аўстраліі. Потым высветлілася, што гэта проста вялізнае вогнішча, у якім аж на працягу 6 тысяч апошніх гадоў гарыць каменны вугаль, выгараючы прыкладна на 1 м за год. Цікава, хто ж яго падпаліў 6 тысяч гадоў таму?*

— Значыць, нашы рыцары аддаюць перавагу дакладным навукам? — узбунтавалася зняважанае самалюбства.

І Ліза ўзялася за алгебру і геаметрыю. Капітальна ўзялася: запісалася на факультатыў, упрасіла маці на рэпетытара.

— Я не я буду, — гаварыла яна, асвойваючыся ў свеце задач з зорачкамі, — калі не абміну гэтую харахоню! У дзявятым усе алімпіяды маімі будуць! Тады і паглядзім.

Выявілася, што ўсё не так проста. Алгебра яшчэ паддавалася, а вось з геаметрыяй адносіны не складваліся, хоць плач! А тут яшчэ і фізіка.

Перапынак

# Намалюй сонца

Адзін з удзельнікаў стаіць, заплюшчыўшы вочы і трымаючы перад сабой нерухома фламастар. Іншыя падыходзяць па чарзе, трымаючы перад сабой чыстыя аркушы паперы. Перасоўваючы аркуш, кожны спрабуе такім чынам намаляваць на ім сонца. Перамагае той, у каго атрымаўся лепшы малюнак.



— У красавіку пройдзе гарадская алімпіяда, — «пацешыў» васьмікласнікаў фізік. — Мяркую, што Наташа паспее падрыхтавацца да някепскага выніку.

— Чаму адразу Наташа? — не стрымалася Ліза. — У нас і Рома ў вашай навуцы няблага разбіраецца. І Алесь Рэмізаў. Ды і я не ўчора з пальмы злезла.

Што называецца, напрасілася.

— Калі не ўчора, тады і цябе возьмем, — падтрымаў энтузіязм фізік. — І Алеся з Ромам. І Лёню з Валікам. Будзем рыхтавацца камандай, як вам прапанова?

Хлопчыкі пераглянуліся: у кожнага з іх былі свае, куды больш цікавыя планы на красавік. Але тое, што Наташа будзе ўдзельнічаць у падрыхтоўцы каманды, прымірыла кампанію. Лізу ўспрымалі ў групе прыкрым непаразуменнем: нядаўна дзяўчынка з цяжкасцю рашала элементарныя задачы, а на лабараторных «тапілася» яшчэ на запісе ўмовы работы.

«Ну, тапіцца ўжо дакладна не буду, — усміхнулася сама сабе Ліза, — а работу ў камандзе здолею павярнуць у патрэбны для сябе бок. Недарэмна па пяць гадзін у тыдзень сінусы з косінусамі завучвала. Разам з законамі механікі. І да наступнага года чакаць не трэба, можна ўжо цяпер вылучыцца!» І ўключылася ў працу, быццам у бой кінулася.

Зранку рабіла прычоску — каб ужо па ўсіх напрамках лідзіраваць. Кофтачкі-спаднічкі кожны дзень мяняла. Нататнічкі і ручкі таксама. Рэпетытара сваімі алімпіяднымі замарочынамі да істэрыкі давяла. А вынік…

Да фіналу Ліза не дайшла, скончыла на адборачным туры. Не адна, праўда, а ўся іх каманда. Акрамя Наташы, безумоўна! Адхапіла Наталля дыплом другой ступені і ўзнеслася… на руках захопленых хлопцаў.

А Ліза наблізілася да лузераў. Нядзіўна: па сем гадзін у дзень лапаціць тое, у чым апошнія пяць гадоў не разбіралася. Плюс дзве гадзіны ў сеціве, сем — у сне, сем — у школе…

— І поўны нуль у астачы! — падвяла несуцяшальны вынік лузерша, паўтараючы агучаныя арыфметычныя дзеянні на тэлефонным калькулятары. — Ой! Не атрымліваецца…

Яна пералічыла ўсё нанова. І яшчэ раз. Пакуль не пераканалася ў відавочным: на ўсе магчымыя жыццёвыя радасці ў яе засталася ЦЭЛАЯ ГАДЗІНА! Хоць… ілюзія ў той самы момант растала ў плыні бязлітаснай рэальнасці: ЦЭЛАЯ ГАДЗІНА ішла на звычайныя санітарна-гігіенічныя працэдуры.

— І ніякай надзеі ўсплыць, — зрабіла яна вынік свайго расследавання, — што і патрабавалася давесці!

Сапраўды, на падрыхтоўку дамашняга задання не заставалася часу. Спярша яшчэ неяк атрымлівалася выязджаць на сістэме ведаў, якая ўжо была. Але потым пачаліся «шасцёркі». За «шасцёркамі» пайшлі «пяцёркі». Добра, што на гэтым этапе матэматычныя эксперыменты скончыліся. Часова…

— Я не я буду, — сцяўшы зубы, паабяцала сабе Ліза, — калі не абганю гэтую харахоню на наступным віражы! І хай рэпетытар сцвярджае, што я і матэматыка — рэчы несумяшчальныя. Сёння рэпетытара змяніць — нават пляваць нікуды не трэба!

— А як сярэдні бал? — нясмела працівіўся розум.

— Ды які там сярэдні бал на фоне ўсеагульнага вар'яцтва! — наравілася зрынутая каралева. — Я не я буду…

***Сімпатулька:***

— Ой, нешта я зусім заблыталася ў тваёй сітуацыі! Ці цябе пакрыўдзілі, ці зняважылі, ці сама ты давяла сябе да такога жыцця? Не падкажаш? Безумоўна, бывае, сустракаюцца такія падступныя асобы, як твая Наталля. І хлопцы вельмі часта мяняюць свае прыхільнасці. Падумаеш, канец свету! Але каб дзяўчына сама сябе да катастрофы давяла… Нагарадзіла агародаў, толькі паспявай паварочвацца. І дзеля чаго? Страціла аблічча і шанц на відавочны поспех. Навошта? «Я не я буду…» — а мне падаецца, што ты ўжо даўно не ты. Можа час вяртацца, сяброўка?

***Першакласнік з яблыкам:***

— Становішча! Як мой дзед казаў: аўт! А дзеду давяраць можна: ён у мяне баксёр. Ведаеш, мне таксама матэматыка не даецца — задачы зусім ніяк. Матуля турбуецца, а тата кажа, што на матэматыцы свет клінам не сышоўся. Ён мяне ў перакладчыкі аддаць збіраецца. Бо з англійскай сябрую. Можа і табе ў перакладчыкі? Як з англійскай?

***Шкодная вучылка:***

— Вельмі пераборлівая стала моладзь! Усё патрабуе, эксперыментуе, ні на што не зважае. А паказчыкі нясуць страты. Агульнашкольныя! Толькі пра сябе і думаеце! Лепш развівалася б, Лазарава, у напрамку любімых прадметаў. Гэта якіх поспехаў можна было б дасягнуць! Што там абласны этап — да міжнароднай алімпіяды некалькі крокаў. А там і публікацыі ў літаратурных часопісах, а можа і цэлая кніга!

Не круці хвастом у розныя бакі, вяртайся на сваё месца. Дарэчы, магу дапамагчы. Чакаю ў панядзелак на стымулюючых.

***Прасунуты старшакласнік:***

— Наогул, у цябе хвароба, сяброўка! Назва ў яе кароткая: зайздрасць звычайная, чула? Не смяротна, але прыемнага мала. Таму хопіць займацца дурасцю і паспрабуй вярнуцца да таго моманту, калі ў цябе завялася гэтая зараза. Падаецца, усё пачалося, калі ў клас прыйшла Наташа. Вось толькі яе вінаваціць не трэба. Яна якраз вартая павагі. Стала сваёй, так бы мовіць, з першай спробы. За перамогу да канца змагалася. Заўваж, нічога супраць работы ў камандзе не казала. А ты? Незразумела з якога перапуду з галавою рынулася ў фізіка-матэматычны вір. Пра свае вынікі начыста забылася. А ці пра свае? Хутчэй за ўсё, і пра школьныя таксама. За час сваіх матэматычных пакут ты прамінула не адну магчымасць стаць паспяховай у літаратурных справах. Магла б вярнуць прыхільнасць аднакласнікаў. Калі гэта яшчэ актуальна. Хоць нас, хлопцаў, не зразумець — бывае, самі не ведаем, чаго хочам. Галоўнае — умець заставацца сабой у любых выпрабаваннях. У цябе не атрымалася пакуль што. Але задачку вырашыць можна. Вось і пачні з яе. Заўтра! Будзь!



Святлана Сітнік, псіхолаг

# Прыкметы несяброўства

***Сябры і сяброўкі — ці заўсёды добра, што яны побач з намі? Многія твае аднагодкі хацелі б разарваць сяброўскія адносіны, але вагаюцца — а ці правільна зробяць? Быць можа, трэба працягваць сябраваць? Калі і ты задаеш сабе такія пытанні, то вось табе некалькі назіранняў, якія падказваюць, што табе і твайму сябру (сяброўцы) даўно пара быць паасобку.***

***Моцарт навучыўся пісаць музыку раней, чым словы. У трохгадовым узросце ён іграў на клавіры, у пяць — на клавесіне і скрыпцы. Не горш за прафесіяналаў.***

**1. Калі хтосьці з вас дае свайму сябру значна больш, чым атрымлівае ўзамен.**

— Мне здаецца, што я аддаю ёй столькі любові, клопату і ўвагі, колькі, напэўна, маці дае свайму дзіцяці! — гаворыць Аксана. — Я падтрымліваю Олю, калі ёй дрэнна і балюча, стараюся зрабіць што заўгодна, толькі б ёй было добра. А яна мяне ўпікае: ты занадта мала ўдзяляеш мне ўвагі. Але ж у мяне і сваіх спраў хапае, я ж не магу вечна сядзець у «ВКонтакте», «выціраючы» ёй слёзы!

У сяброўстве вельмі важна ўмець балансаваць: «ты мне — я табе». Цяжка сябраваць, калі аддаеш сябе, нічога не атрымліваючы, акрамя папіканняў!

— Пасля размовы з Оляй я адчуваю сябе спустошанай і стомленай, — працягвае Аксана. — Мне трэба паляжаць, набрацца сіл. Быццам унутры мяне было нешта вельмі добрае, а потым яго не стала.

Аксана аддала Олі ўсё тое добрае, што ў яе было, — увагу, дбанне і падтрымку і вызваліла месца для таго, каб атрымаць нейкія станоўчыя пачуцці ў адказ. Але Оля нічога не дае ўзамен, і пустэча ўнутры Аксаны не запаўняецца. Таму і ляжыць яна на канапе ў «пабітым» стане.

«Ты мне — я табе» — галоўны закон сяброўства. Калі ён парушаецца, адзін з сяброў пачынае губляць радасць адносін, а то і радасць жыцця. Ці варта трымацца за такое сяброўства? Яно прыносіць не натхненне, а пакуты.

**2. Калі тое, што адбываецца ў тваім жыцці, сябру (сяброўцы) нецікава.**

— Аднойчы і я вырашыла паскардзіцца Олі на жыццё. Мне тады было рэальна дрэнна — я моцна пасварылася з бацькамі, — расказвае Аксана. — І што

я пачула? «Давай мы не будзем пра гэта размаўляць. Мне нецікава».

Вось гэта ўжо відавочная прыкмета таго, што сяброўства няма і наўрад ці калі-небудзь з'явіцца! Оля не хоча (не можа, не ўмее) выслухаць блізкага чалавека, не жадае (ці не ведае як) падтрымаць яго. Так яна можа застацца адна. Але што Аксана? Аксана ўбачыла Олю з іншага боку і зразумела, што адносіны будуе толькі яна, выкладваючыся «на поўную», і што наўрад ці Оля ўжо зменіцца. І, хутчэй за ўсё, час ёй шукаць новую сяброўку — больш удзячную і чулую.

**3. Калі ёсць пачуццё, што твой сябар цябе выкарыстоўвае.**

— Я сябравала з Веранікай, — расказвае Сняжана. — Яна часта расказвала пра сваю былую сяброўку ўсялякія гадасці. А потым яны зноў пасябравалі. І я стала непатрэбнай. Цяпер Вераніка часам піша мне ў «ВКонтакте», як яны класна праводзяць час разам і як добра, што яны зноў пасябравалі. Я бачу, як яна ўсё больш і больш аддаляецца ад мяне, і мне ад гэтага балюча і дрэнна. Я адчуваю сябе лялькай, цацкай, якую купілі ў краме на замену той, што паламалася. Цяпер яе падрамантавалі — і я апынулася лішняй. Але што мне рабіць? Ці варта працягваць сябраваць?

Сняжане крыўдна губляць сяброўку, але быць з ёю таксама балюча. Заўсёды адчуваць, што ты «запасны» варыянт, — ці патрэбны такія выпрабаванні? Ці не лепш пасябраваць з тым, хто табе цікавы і кім цікавішся ты?

— Калі Максу было дрэнна — ён пісаў мне, — распавядае Ягор. — А калі ў яго ўсё добра, ён гуляе з Дзянісам. Нядаўна я зразумеў, што Макс мяне выкарыстоўваў як «камізэльку», у якую можна паплакацца, калі ў цябе «дэпрэсняк». Мне стала крыўдна — я не хачу быць «сметніцай». Я так і сказаў яму пра гэта.
















*Мастачка Юлія Усава*

Ён малайчына, усё зразумеў, і цяпер мы таксама часам гуляем разам, а ныць ён стаў менш.

Так, бывае, што сяброўскія адносіны можна выратаваць, калі вы зможаце зразумець адзін аднаго і дамовіцца. Тады старое сяброўства сыходзіць, а на змену яму прыходзіць новае.

***Аказваецца, сапраўдны колер спелых апельсінаў зялёны! Успомніце, што адбываецца ўвосень з лістотай. Зялёны хларафіл у ёй разбураецца — і праступаюць іншыя пігменты: аранжавыя, чырвоныя, жоўтыя. Вось так і з апельсінам, які сарвалі з галінкі: у ім хутка пачынае разбурацца хларафіл.***

**4. Калі вас звязвае мінулае ці будучыня, а «сёння» няма.**

— Уяўляеце, — дзеліцца Наста, — я да гэтага часу спадзяюся, што наша сяброўства з Дашай будзе такім, як і раней. Мінулым летам мы праводзілі шмат часу разам, падоўгу шпацыравалі па горадзе, у нас было шмат прыгод, нам было весела. А цяпер усё не так. Часам паміж намі ўзнікае маўклівая паўза — мы нават не ведаем, пра што гаварыць! Яна піша ў «Viber»: «Прывітанне, як справы?» А я нават і не ведаю, што адказаць, — у мяне быццам нічога незвычайнага не адбываецца, каб ёй было цікава. Не буду ж я пісаць, як ем або выгульваю сабаку! Мы хацелі разам запісацца ў якую-небудзь танцавальную студыю, але так і не сабраліся...

У Насты і Дашы няма агульных інтарэсаў, але ёсць агульныя ўспаміны і ілюзіі, што калі-небудзь ім будзе таксама добра разам. Але нічога не адбываецца, нічога не мяняецца, таму што дзяўчаты не могуць знайсці агульных інтарэсаў і тэм для размоў. І нават не асабліва спрабуюць. Ім некамфортна разам, але мінулае злучае іх і трымае побач. Калі ваша сяброўства сілкуюць толькі ілюзіі — трэба нешта мяняць: шукаць агульныя інтарэсы або чалавека, з якім будзе цікава.

**5. Калі ты хочаш разбурыць адносіны, але баішся адзіноты.**

— Да таго, як я стаў сябраваць з Алесем, у мяне было вельмі шмат сяброў, — расказвае Андрэй. — А потым яны сталі знікаць адзін за адным, таму што ўвесь свой час я стаў праводзіць з Алесем. Цяпер мне жудасна сумна з ім, мы часта сварымся, лаемся, злуёмся адзін на аднаго. Ён любіць «падкалоць» мяне, абзывае, хоць я яму казаў, што мне гэта непрыемна. А яму ўсё роўна, ён смяецца.

Андрэй трывае такое «сяброўства» і такога «сябра» толькі таму, што баіцца, што былыя сябры ўжо не вернуцца да яго, і ён застанецца зусім адзін. Страх адзіноты і непатрэбнасці ўтрымлівае многіх людзей побач з тымі, хто іх не варты. Андрэй зразумеў, што раз у яго ўжо было шмат сяброў, то ён лёгка зможа знайсці і новых — бо чымсьці ён быў ім цікавы, прыцягваў да сябе. Значыць, і цяпер сабраць новую вясёлую кампанію ён таксама зможа. А магчыма, калі вызваліцца месца Алеся, яго зойме іншы, больш годны сябар?

Не бойся змен, бо заўсёды са стратай старога прыходзіць нешта новае — гэты жыццёвы закон датычыцца і сяброўства. Калі табе дрэнна, калі твой сябар робіць табе балюча, вырашы — ці патрэбны табе такія стасункі. Калі так — падумай, што можна ў іх змяніць, каб табе стала камфортна. Але калі нічога (ці нікога) змяніць нельга — сыходзь, дай магчымасць новым сябрам прыйсці ў тваё жыццё і зрабіць яго лепшым.

# Праклятае месца


Аркаша, прывід

Страшныя гісторыі з нумара ў нумар

Віцёк і Славік збіралі суніцы. Чэрвень атрымаўся шчодрым і на дажджы, і на сонейка, і ягады ўрадзіліся буйныя, сакавітыя, такія, што ў рот іх трапляла больш, чым у слоічкі.

— Дарэмна мы топчамся ўздоўж палянкі, — уздыхнуў Віцёк, пазіраючы на больш чым сціплы вынік паўтарагадзіннага збору. — Трэба глыбей у лес, я там такое месца ведаю, што і маме на варэнне набяром, і самі наядзімся ад пуза!

— Цётка Маша казала, каб далёка не ішлі, — засумняваўся Славік. — Можам на балота натрапіць.

— Ды глупства! Вам, гарадскім, каб толькі па дарожках шпацыраваць, — усміхнуўся Віцёк. — Не бойся, я ў гэтым лесе кожную сцежачку ведаю не горш за навігатар.

Славік уздыхнуў і паплёўся за стрыечным братам.

Суніц сапраўды было шмат. Не прайшло і гадзіны, як слоічкі аказаліся поўнымі, і можна было вяртацца.

Віцёк з выглядам знаўцы паглядзеў на дрэвы, потым на сонца і ўпэўнена павёў Славіка праз гушчар.

Праз гадзіну яго хада зрабілася менш рашучай, а яшчэ праз паўгадзіны Віцёк нахмурыўся: пад нагамі пачало чвякаць, красоўкі набрынялі вадою.

— Усё ж балота! — уздыхнуў Славік.

— Не бойся, вырулім! — буркнуў Віцёк і ўзяў правей.

Але балота аказалася бясконцым. Ісці, пераскокваючы цераз топкія месцы па слізкіх карчах, было няпроста, і хлопцы хутка страцілі ўсе сілы. Славік зусім быў раскіс, а Віцёк раптоўна ўзрадаваўся:

— Зірні! Відаць, пагорак! Давай туды: абсохнем, агледзімся, вырашым, куды далей…

Ледзь перасоўваючы ногі, хлопчыкі дацягнуліся да невялікага ўзвышэння пасярод багны. Выбраліся на цвёрдае, селі, стомлена прыхінуліся да цёплага ад вячэрняга сонца заімшэлага каменя.

— Трэба выбірацца, — ледзь аддыхаўшыся, занерваваўся Славік. — Сонца сядае, а як у цемры шлях шукаць будзем? Месца тут нейкае дзіўнае: камяні, карчы… І форма ў іх нейкая…

— Славік, — дрыготкім голасам раптам завёў Віцёк. — А гэта ж не карчы! Гэта… крыжы!

> *Заканчэнне страшнай гісторыі чытайце ў праекце «Бярозка плюс» на http://zviazda.by/be/byarozka*

# Падарожжа ў медыцыну

Неяк у дзяцінстве мяне адвялі да стаматолага. Напэўна, я хвалявалася тады: не памятаю. Памятаю вось што: жанчына-ўрач прапанавала мне выбраць «смак» пломбы, я задумалася, але спыніла выбар на банане. На працягу некалькіх наступных гадоў я сур'ёзна думала, што пломбы маюць смак, хоць і выбіраць больш не прапаноўвалі. Даводзілася здагадвацца самой, з чым на гэты раз.

А сёння я іду па калідоры звычайнай паліклінікі. Адчуваю спецыфічны пах. Як бы праспяваў гурт «Корни»: «Я пазнаю яго з тысячы». Пах стаматалогіі свідруе мне душу. Працягваю ісці па калідоры і спадзяюся, што паход да лекара будзе балючым толькі для стэрэатыпаў.

Мяне сустракаюць Вольга і Глафіра (далей будзем называць яе «малады спецыяліст», кім яна і з'яўляецца). Інтэрн адпрацоўвае два гады пасля бюджэтнай вучобы ў медыцынскім універсітэце. Так выглядае кар'ерная лесвіца ў стаматолагаў: доктар → загадчык → галоўны ўрач. Як бачыце, ўсё пачынаецца з «доктара» — прыступкі, якая для некаторых можа быць першай і адзінай. Напрыклад, Вольга працуе доктарам 23 гады і «ўверх» ісці не збіраецца. Кажа, што амбіцыі ўжо не тыя і кола абавязкаў загадчыка — іншае, ён кіруе дзейнасцю стаматалагічнага аддзялення. Глафіра планамі на будучыню не падзялілася, затое расказала найцікавейшы факт пра мінулае! Малады спецыяліст, аказваецца, алімпійская чэмпіёнка па мастацкай гімнастыцы! Са спорту ў медыцыну па парадзе бацькоў.

Оля стала стаматолагам з той жа прычыны. І ні пра што не шкадуе: «Я б хацела, каб мая дачка была лекарам, але не стаматолагам. Прымушаць не буду. Чаму не стаматолагам? Балючае месца заўсёды імкнуцца паказаць. Я стараюся не абвяшчаць сваю прафесію, каб не трапляць у недарэчныя сітуацыі, калі ў краме сустракаеш знаёмага, а ён адкрывае рот. У самым прамым сэнсе!»

Оля стаіць, размаўляе са мной і лечыць зубы жанчыне ў гадах. Потым яшчэ і падзякі ад яе атрымлівае. А пасля дзеліцца сваім назіраннем: «Я такіх пацыентаў называю "качэўнікамі", яны проста вандруюць за доктарам. Я ў платнай медыцыне працавала — і яны туды ж.

Вядома, хто хоча добра зарабляць ідзе ў прыватную клініку. Вось я і думаю: а хто ў нас не хоча добра зарабляць? Хочуць многія, але не ўсе могуць: калі стаматолаг не абцяжараны сям'ёй, дзецьмі і іншым, як правіла, ён заняты на дзвюх работах. А значных адрозненняў паміж працай у прыватнай структуры і бюджэтнай — няма. Людзі і там, і тут. Але са сваім меркаваннем у прыватную клініку лепш не ісці», — параіла Вольга. Гэта я б і сабе занатавала.

Дык адкуль жа ўзялося меркаванне аб тым, што ў стаматолагаў «грошай куры не дзяўбуць»? Заходзім на сайт звычайнай мінскай стаматалогіі і глядзім цэны: лячэнне карыесу — паўмільёна, гігіена ротавай поласці амаль што паўтара мільёна. Пачынаеш баяцца стаматолагаў не таму што балюча, а таму што дорага. Але не ідуць жа гэтыя мільёны непасрэдна ў рукі доктара: і пломбу не з паветра робяць, і зубы не пальцам свідруюць, і ротавую поласць не сонца асвятляе, а спецыяльная лямпа. А! Яшчэ і на прыём запісаць хтосьці павінен. Як высветлілася — «у рэгістратара наогул самая складаная работа».



«А самае складанае ў прафесіі стаматолага — гэта калі хочаш дапамагчы, але не можаш», — з сумам паведамляе Оля. Праз некаторы час у кабінет зайшоў пацыент, працягнуў здымкі і даведкі. Вользе хапіла некалькі секунд на іх вывучэнне і выслоўе: «Мы не можам вам дапамагчы». Курс лячэння яна ўсё-такі прапісала з надзеяй на паляпшэнне стану хворага. За ім у кабінет зайшоў мужчына і выдаў: «Усё згніло!» Ён усміхаўся, а дактары насцярожыліся. Яны вымаўленае як жарт не ўспрынялі і пасадзілі гумарыста ў стаматалагічны фатэль, але спачатку задалі мноства пытанняў. А падчас агляду яшчэ і адчыталі за тое, што не часта чысціць зубы. Стаматолагі ж збольшага і псіхолагі. Асабліва гэты адчуваецца ў рабоце з дзецьмі. Ва ўніверсітэце не выкладаюць такую дысцыпліну, «Як запламбаваць зубы дзіцяці. Кароткі курс», прыходзіцца шукаць свае падыходы, з вопытам з'яўляюцца розныя метады і сакрэты. Напрыклад, Вольга раіць не казаць дзіцяці перад наведваннем урача: «Будзе не балюча». Бо дзеці чуюць толькі слова «балюча».

Стаматолагі незадаволеныя тым, што іх не ўспрымаюць як сапраўдных дактароў. Оля: «Недзе гадоў дваццаць таму стаматолаг лічыўся чымсьці сярэднім паміж доктарам і цырульнікам». «Цяпер мала што змянілася», — дадае Глафіра.

Ёсць шмат «за» і «супраць» прафесіі. І кожны сам для сябе іх вызначае: што дрэнна аднаму — добра іншаму. Але бясспрэчны той факт, што стаматалагічны факультэт мае самыя высокія прахадныя балы ў Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце. Ён жа з'яўляецца адным з самых дарагіх для навучання. Прафесія запатрабаваная і перспектыўная. Калі ўжо алімпійскія чэмпіёнкі выбіраюць яе для сябе... Гэта штосьці значыць!

***Марына Шантыр***

У царкве з Лізай Ліпай



# Правілы напісання царкоўных запісак

Пішы выразным, зразумелым почыркам, можна і друкаванымі літарамі. Не імкніся сцісла напісаць усе імёны на адной паперцы — свяшчэннаслужыцелю будзе складана іх прачытаць.

Калі ў храме няма спецыяльных бланкаў для запісак або ты вырашыў падрыхтаваць іх загадзя, то на невялікім чыстым аркушы паперы спачатку намалюй васьміканцовы Крыж (☦), а потым напішы: «О здравии» (для малітвы за жывых) або «О упокоении» (за памерлых). Дарэчы, існуюць сайты, з якіх можна спампаваць і раздрукаваць прыгожыя бланкі для запісак.

Даведайся царкоўнае напісанне свецкіх імён (напрыклад, не Ягора, а Георгія[1], не Лізаветы, а Елісаветы, не Арцёма, а Арцемія, не Сяргея, а Сергія, не Святланы, а Фаціні і г. д.). Калі не ведаеш, як у царкоўным напісанні гучыць імя, заўсёды можаш звярнуцца па дапамогу да служыцеля храма.

Стаў поўную форму імя, нават калі пазначаеш у запісцы маленькіх. Дзяцей ва ўзросце да сямі гадоў запісваюць так: младзенца Максіма, младзенца Надзеі; дзяцей ад сямі да чатырнаццаці гадоў — як отракаў і отракавіц: отрака Цімафея, отракавіцы.

Прозвішчы, імёны па бацьку, тытулы, прафесіі — не пазначаюцца. Дазваляецца дадаць у запіску перад імем: воіна, хворага, падарожніка, заплуталага (хрышчоны, якія адышоў ад Праваслаўя), пакутнага (напрыклад, ад п'янства, наркаманіі, курэння, азартных гульняў і г. д.), вучня, манаха.

У памінальных запісках варта пазначаць перад імёнамі: новапрастаўленага (так памерлы называецца на працягу сарака дзён пасля смерці), прыснапамятнага (дапісваецца, калі дзень падачы запіскі супадае з важнай датай для памерлага: смерці, дня нараджэння, імянінаў), убіеннага (які памёр не сваёю смерцю). Калі не ведаеш дату ці прычыну смерці, можна проста напісаць імя памерлага.

---

[1] *Імёны пішуцца ў родным склоне (пытанне «каго»).*

Прывітанне, дарагі мой хрэснік!

Хачу павіншаваць цябе з днём Святой Тройцы, адным з найвялікшых праваслаўных свят. У гэты дзень Царква ўспамінае сашэсце Святога Духа на апосталаў. Ты можаш прачытаць пра гэта ў Бібліі.

Адбылося гэта на пяцідзясяты дзень пасля Уваскрэсення Ісуса Хрыста. Таму Тройца яшчэ завецца Пяцідзясятніцай. З гэтага дня раскрылася свету дзеянне Прасвятой Тройцы, людзі навучыліся пакланяцца і ўслаўляць тры асобы адзінага Бога: Айца, і Сына, і Святога Духа. Гэты дзень лічыцца днём стварэння Царквы Хрыстовай.

Твая мама гаварыла, што цябе здзівіла выява Святой Тройцы ў дзіцячай Бібліі. Там на абразе Бог Айцец выглядае сівабародым старым. З аднаго боку, пагадзіся: мы нават на сонца не можам глядзець, не рызыкуючы аслепнуць. Тым больш чалавек ніяк не можа ўбачыць Таго, Хто стварыў усё: і сонца, і зоркі, і галактыкі, і сусвет.

Але ўважлівы чалавек сляды Бога знойдзе паўсюдна. Ведаеш, я вельмі люблю вясну. У гэты час неяк асабліва адчуваецца веліч Бога. Трымаеш пакецік з насеннем і дзівішся: як гэта з кропачкі нешта з'явіцца? Як у маленькім зярнятку закладзена будучая расліна? Якім цудам яна вырасце? Якая сіла з жолуда створыць дуб-волат, з белае семкі памерам з пазногаць — гарбуз велічынёю з куфар, а з чорнай семкі — двухметровы вясёлы сланечнік?

Вось я прапołваю пустазелле і дзіўлюся: як стаіць і не падае высокая сцяблінка? Такая тонкая, мяккая, як ядвабная тасёмка, а стаіць, быццам сталёвы пруток, да сонца ўверх цягнецца, пад ветрам згінаецца, але не ломіцца. А побач з нашым домам старая бярозка расце, вышынёй з пяціпавярховік, мабыць. Пытаю мужа: «Якія "помпы" у нашай бярозе працуюць, як ваду да верхавіны качаюць? А ў гіганцкіх секвой — як?» А мо ты ў сваім інтэрнэце знойдзеш адказы? Бо муж смяецца з мяне, гаворыць, што я пад старасць у дзяцінства ўпадаю. Маўляў, узрост «чамучак» — ад трох да пяці, а не пасля пяцідзесяці. А я гляджу навокал, зачараваная хараством свету, радуюся: гэта ж трэба, якую прыгажосць стварыў Бог! Канешне, чалавек можа

### ВЫПАДАК ЦІ БОЖАЯ МУДРАСЦЬ?

Якім чынам мільёны сляпых тэрмітаў каардынуюць свае дзеянні, каб узвесці складаныя збудаванні і забяспечыць іх кандыцыянерам?

Адкуль павук, які жыве пад вадой ў сваім «вадалазным каўпаку», ведае, што калі канчаецца кісларод, ён павінен прарэзаць у ім адтуліну, выпусціць старое паветра, заканапаціць адтуліну і пасля папоўніць запас свежага паветра?

Адкуль жуку-дрывасеку вядома, што яму трэба адкласці яйка пад кару галінкі мімозы, затым прапаўзці прыкладна 30 сантыметраў у бок ствала і зрабіць у кары кальцавы надрэз, каб умярцвіць галінку, бо ў жывой драўніне з яго яйка не выведзецца лічынка?

Адкуль дзіця кенгуру — велічынёй з фасоліну, сляпое і недаразвітае — ведае, што для таго, каб выжыць, яно павінна самастойна, без дапамогі прабрацца скрозь поўсць маці да яе жывата, залезці ў сумку і прымацавацца да аднаго з саскоў?

Якім чынам меданосная пчала паведамляе таварышкам, дзе знаходзіцца нектар, колькі яго там, на якой адлегласці, у якім напрамку і ў якіх кветках?..

***З кнігі «Верую, Господи, помоги моему неверию...» (Минск, Свято-Елизаветинский монастырь, 2012)***



«Слупы сусвету». Туманнасць Арла

У існаванне Бога верылі навукоўцы з сусветна вядомымі імёнамі: Ньютан, Паскаль, Ампер, Кеплер, Дэкарт, Лейбніц, Леанарда да Вінчы, Ламаносаў, Мендзялееў, Фарадэй, Максвел, Эдысан, Гаўс, Мендэль, Ліней, Пастэр, Пірагоў і іншыя…

новы сорт кветкі вывесці, калі насенне ў кветкі ўжо ёсць. А як само насенне стварыць з нічога? Як адну кроплю вады стварыць з нічога, калі няма ні «аш», ні «два о»? Паспрабуй! Як без Бога Стваральніка абысціся? Ведаеш, многія вялікія вучоныя верылі ў Бога. Яны ведалі, што навука толькі адкрывае тыя законы, якія ўжо ўсталяваў Бог, і па якіх ужо мільёны гадоў без збою працуе наш сусвет.

Але самы неспасціжны цуд і вянец Тварэння — чалавек. Яго Бог стварыў па Сваім падабенстве, з пылу зямнога. І «ўдыхнуў у твар яго дыханне жыцця, і стаў чалавек душою жывою».

Значыцца, чалавек жывы, пакуль дыханне жыцця, дух Божы ў ім ёсць. Адляціць дух да Тварца — і застанецца ад чалавека толькі цела, і вельмі хутка зноў стане пылам, зямлёю.

Я часам думаю: а я ж магла і не з'явіцца на белы свет. І ніколі б не жыла. Ніколі! Не бачыла, не захаплялася, не засмучалася, не чула, не думала, не разважала, не працавала, не адпачывала, не падала, не ўставала, не дапамагала, не спачувала, не расла, не старэла, не любіла, нічога не хацела…

Жах.

І я ўдзячная Богу за тое, што я ёсць. Калі Бог сваёй любоўю выклікаў мяне з небыцця ў жыццё, то і я хачу адказваць яму сваёй любоўю. Як магу, па сілах сваіх. І ў такія хвіліны нічога не хочаш прасіць у Бога, а толькі, радуючыся, усхваляць Яго: «Слава Айцу, і Сыну, і Святому Духу, і цяпер, і заўсёды, і на векі вякоў. Амінь».

З Тройцыным Днём цябе, дарагі хрэснік!

***З любоўю хросная.***

***Заданне: прысылай у рэдакцыю зацемкі пра дзівоснае ў будове свету, прыроды, а таксама малюнкі, вершы і іншае на гэтую тэму.***

# Лепш за любое мора

Успамінаць прыгоды мінулага лета мае вучні пачалі яшчэ ў пачатку вясны. Усё часцей на перапынках можна было пачуць: «— А памятаеш, як мы купаліся ў Прыпяці. — Так, а колькі я грыбоў сабраў раніцай у Налібоках?! — Так, а памятаеш, як Васька шукаў свае тапкі на Доўгім!» І так далей.

А бацькі таксама. Успамінаючы свае падарожжы разам з дзецьмі ў лагеры «Налібоцкія следапыты», яны задумаліся, чаму аддаць перавагу ў сезон летніх водпускаў: прывабным прапановам цалкам адладжанага адпачынку ў заморскіх краінах ці рамантыцы невядомых дарог «Школы экспедыцыі» ў Беларусі.

**Дзіма Анішчык, школьнік-следапыт, успамінае:**

У свае сем гадоў я катаўся на самакаце і ровары, ездзіў на машыне, аўтобусе і цягніку, плаваў на лодцы і катары... Але каб вандраваць так незвычайна — у суправаджэнні «воза з дахам», запрэжанага коньмі (мне падказалі, што ён называецца «кібітка») — пра такое я нават у інтэрнэце не чытаў! Аказваецца, жыццё поўнае нечаканасцяў! Але пра ўсё па парадку.

Пра коней я марыў увесь гэты час, уяўляў сустрэчу з імі да дробязяў. Але ўсё было нават лепш за мае чаканні! Калі я ўпершыню ўбачыў, як пад'язджае кібітка, запрэжаная двума коньмі, з вершнікамі-каўбоямі на іх, то... шмат чаго даведаўся пра сябе самога. Напрыклад, што я магу ад радасці скакаць ледзь не вышэй свайго росту. Праўда-праўда. Шкада, што ніхто ў той момант не паспеў вымераць вышыню маіх падскокванняў. Усе глядзелі на гэтае відовішча: на фоне заходу сонца да нас падыходзіла кібітка. Клянуся, нават мой тата не бачыў такога ў сваіх любімых вестэрнах! А мама б сказала, што да гэтай карціны не хапае музыкі Эніа Марыконэ...

На наступны дзень я змог пазнаёміцца з конікамі бліжэй. З адной кабылай нават пасябраваў. Яе звалі Асоль. Я пачаставаў сваю новую знаёмую яблычкам. Здаецца, яно ёй спадабалася. З той пары я стараўся кожны дзень прапанаваць Асоль што-небудзь смачненькае: пучок духмянай травы, пачышчаную моркву ці чорны хлеб, але абавязкова не вельмі свежы, бо свежы хлеб коням катэгарычна забаронены. Пра гэта мне расказаў адзін з інструктараў-каўбояў, якія суправаджалі наш вандроўны лагер.

Наогул, падчас паходу я даведаўся шмат цікавых фактаў пра жыццё коней: асаблівасці догляду, хваробы, пажаданыя пачастункі… Напрыклад мяне здзівіла, што коні могуць бачыць амаль на 360 градусаў вакол сябе, значыць, не толькі перад сабой, але і ззаду. Таксама коні добра бачаць і ў цемры. Каб вызначыць узрост каня, трэба паглядзець на яго зубы. Ага! Дык вось адкуль прымаўка пра падоранага каня.

А сапраўдным стрэсам для жывёлы можа стаць жыццё ў адзіноце. Бо каб адчуваць сябе шчаслівай, патрэбны сябар, пажадана, іншы конь. Але і з людзьмі яны ўмеюць сябраваць. Напрыклад, калі з канём абыходзіцца ласкава, то ён запомніць чалавека як сябра да канца сваіх дзён і адразу ж успомніць, як толькі ўбачыць зноў. А яшчэ яны могуць улоўліваць эмоцыі ў голасе наезніка і вызначаць яго стан.

Коні таксама вельмі добра запамінаюць месцы. Калі ім сумна, яны могуць выпадкова вынайсці спосаб адвязаць сябе ад апоры, адкрыць зашчэпкі ці засекі для збожжа ў стайні. Калі яны пасваволяць так хоць адзін раз, то абавязкова яшчэ выкарыстаюць такі спосаб паводзін, як толькі надарыцца зручны выпадак.

Вось колькі цікавага я даведаўся, дзякуючы толькі аднаму, але вельмі незвычайнаму паходу!

**Даніiл Суша вырашыў падзяліцца ўражаннямі не толькі ад беларускіх вандровак, але і ад замежных:**

Я люблю прыроду, і за лета мне ўдалося пабываць у пяці турыстычных паездках па розных экзатычных мясцінах, пра якія я хачу расказаць.

Калі коратка, гэта тры беларускія турыстычныя жамчужыны — Бярэзінскі запаведнік, беларускі Байкал — возера Доўгае, Налібоцкая пушча — і гарадскія «джунглі» з жывёламі ў Іспаніі і Славакіі.

Кожны тур адрозніваўся сваімі героямі.

У Славакіі, у гатэлі, пакуль дарослыя займаліся шопінгам, я назіраў за велізарнымі зграямі гарадскіх ластавак, якія рабілі гнёзды на сценах. Не было і хвіліны, каб у паветры не лётала хоць адна ластаўка...

У Іспаніі мне запомніліся сабакі, якія кожны вечар выходзілі шпацыраваць са сваімі гаспадарамі. Там, аказваецца, амаль няма бяздомных сабак, затое амаль у кожнага чалавека ёсць чатырохногі сябар. Сабакі былі розных парод: хаскі, аўчаркі, даберманы і іншыя.

На возеры Доўгім мне запомніліся выдры, якія кожны дзень проста пад нашымі вудамі заплывалі ў ваду, каб здабыць пражытак. А яшчэ большае задавальненне яны прыносілі нам пад вечар. Вудзіш на мосце з сябрамі, і відаць у празрыстай вадзе, як пад мостам праплывае ўжо сытая выдра і глядзіць з цікаўнасцю на цябе сваімі чорнымі вочкамі. І ўсе глядзяць, як яна плыве, і з нецярпеннем чакаюць, калі яна вернецца.

У Бярэзінскім запаведніку я шмат даведаўся пра птушак, але больш за ўсё мне запомнілася птушка чарацянка-барсучок, якая жыве каля вадаёмаў у кустах. Калі самец чуе песню саперніка, ён вылятае з кустоў і пачынае шукаць яго, пералятаючы з месца на месца, пагражаючы сваёй песняй. Калі доўга разглядаць птушку, можна даведацца пра шляхі яе пералёту. У майго самца чарацянкі я налічыў як мінімум пяць месцаў, куды ён сядаў, калі шукаў саперніка.

Але больш за ўсё мне спадабалася на возеры Доўгім, дзе побач быў цэнтр Еўропы — возера Шо. Нам пашанцавала: было цудоўнае надвор'е, рыбалка, шмат выдраў і займальнае вывучэнне слядоў каляводных жывёл. За ўсю экспедыцыю на возеры Доўгім мы знайшлі сляды казулі, выдраў і каляводных птушак. А на Шо мы заўважылі яшчэ адну сцежку казуль, ляжанку дзіка і затоку баброў. І ўсюды было шмат нор пацукоў, палявых мышэй і іншай драбязы.

Хацелася адзначыць, што большасць нор сустракалася каля вёсак і прыватных агародаў, у лесе, як ні дзіўна, іх было менш. Гэта сведчыць пра тое, што жывёлы сталі выкарыстоўваць чалавечыя пабудовы ў сваіх мэтах, я зразумеў гэта сам.

**А вось успаміны аднаго з маладых, але перспектыўных юннатаў — Паўла Таркайлы:**

У жніўні я быў у вандроўным лагеры следапытаў. Мы падарожнічалі па Налібоцкай пушчы, па поймах рэк Нёман і Сула. Нас было 13 чалавек. Уначы мы спалі ў намётах. Ежу рыхтавалі на вогнішчы. Мы вывучалі расліны Налібоцкай пушчы. Падарожнічаць нам дапамагалі коні. Яны перавозілі нашы рэчы і ежу. Больш за ўсё мне спадабаўся белы конь па мянушцы Зефір. У суботу да нас у лагер прыязджалі мой тата і сястра Іра. Мы разам каталіся на конях. Яшчэ ў лагеры былі конкурсы і віктарыны пра прыроду. Усе імкнуліся правільна адказаць на пытанне і атрымаць прыз. Потым у нас быў пераход на новае месца начлегу — на Нёман.

Я згубіў там свой нож, але сябры дапамаглі мне яго знайсці. Месцы, дзе мы спыняліся, былі вельмі маляўнічыя і ўтульныя, нават не хацелася іх пакідаць, але трэба было ісці далей і пазнаваць новае. Гэта быў мой першы працяглы паход. Мне спадабалася падарожнічаць па Налібоцкай пушчы.

***

Трэба сказаць, што цяпер у клубе «Выток» самыя напружаныя дні. Пачаткоўцы імкнуцца дагнаць вопытных даследчыкаў. Навучыцца распальваць вогнішча, гатаваць ежу — гэта для іх і для нас галоўнае. Гэтым летам калектыў клуба чакае сур'ёзнае і працяглае даследаванне заказніка «Сярэдняя Прыпяць» на Беларускім Палессі.

Чорныя і белыя буслы, рыбы вадаёмаў поймы ракі Прыпяць, земнаводныя палёў, лугоў, лясоў, нават буйныя насякомыя, такія як жук-плывунец, вялікі зялёны конік чакаюць з нецярпеннем хлопцаў і дзяўчат у госці. І абяцаюць узнагародзіць дзіўнымі прыгодамі, прыгожымі фотаздымкамі, унікальнымі адкрыццямі.

Экспедыцыя будзе працягвацца ўсё лета. Экспедыцыйныя атрады выязджаюць на тыдзень, змяняючы адзін аднаго. А завяршацца гэтыя даследчыя прыгоды, калі буслы пачнуць збірацца ў Афрыку — часу і працы хопіць на ўсіх.

Дарагія чытачы, вы можаце лічыць сябе запрошанымі ў якасці памочнікаў нашым юным даследчыкам.

***Аляксей Мухля***
***кіраўнік клуба даследчых экспедыцый «Выток»***

# Не святыя гаршкі лепяць…

Не святыя гаршкі лепяць, сцвярджае прымаўка. Ды не выпадковыя «ляпілы», а ганчары-ўмельцы тварылі цуд. Спачатку выбіралі патрэбную гліну, старанна размешвалі, дадавалі пяску або жарствы. Потым фармавалі пасудзіну на ганчарным крузе, нажным ці ручным. Яшчэ сыры гаршчок здымалі з круга, абпальвалі ў горне — спецыяльнай печы, гартавалі ў абвары — растворы з жытняй мукі, драўлянага вугалю, сажы. І толькі пасля гэтага гаршчок, як жывая душа, прапісваўся ў хаце.



Гаршчок — гліняная пасудзіна, у якой вараць ежу ў печы. Бакі ў яго пукатыя, дно звужанае, вусце абкружана абадком-венцам. Рабілі часам з накрыўкаю, адной ці дзвюма ручкамі, каб было за што ўзяцца і перанесці гаршчок з прыпечка на лаву. Аздаблялі скупа. Толькі зрэдку па сырой паверхні, ніжэй венца, прачэрчвалі прамыя ці хвалістыя палоскі — старажытны сімвал вады. Гліна была розная, светлая і цямнейшая, і пасля абпалу гаршкі самі па сабе набывалі прыгожы колер: белы, шэры, чырванаваты, карычневы.

Да гаршка, як і да чалавека, ляпіліся мясцовыя назвы-мянушкі: абеднік, варэйка, злівач, пітушка. Маленькі гаршчок называўся гарнушкам. У наш час ежу вараць у металічным посудзе — каструлях і чыгунах. Але гаршкі не выйшлі з ужытку. У іх гатуюць нацыянальныя стравы. Ёсць нават прыказка: «Пільнуйся гаспадаркі, будуць у гаршку скваркі».

А вось як гавораць пра недарослага чалавека: «Ад гаршка паўвяршка».

«Заглядаць у чужы гаршчок» — празмерна цікавіцца тым, як жыве чужы чалавек.

«Не святыя гаршкі лепяць» — можна зрабіць усялякую справу, калі за яе ўзяцца з жаданнем і стараннем.

«Як у гаршку кіпець» — пачуваць сябе вельмі дрэнна, за нешта адчуваць сорам.

***Алена Касцюшка, кіраўнік краязнаўчага гуртка «Нашчадкі», Сапоцкінская СШ, Гродзенскі раён***

## ПАДАННІ

***Прапануем два паданні ад аб'яднання па інтарэсах «Юны журналіст», якое працуе ў Гезгалаўскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна.***

# Адкуль пайшла назва Гезгалы

Пра нашы Гезгалы людзі вось што расказваюць.

Быццам, жылі тут некалі два браты: Гез і Гал. Браты былі вельмі дружнымі, усюды ўдвух хадзілі і ўсе справы разам рабілі. А бацька іх заўсёды прыгаворваў: «Пакуль вы разам, ніякі вораг вас не адолее».

Але вось аднойчы напалі ворагі на іх роднае сяло, і выйшлі браты на бой крывавы. Біліся яны доўга і ў рэшце рэшт перамаглі ворагаў, бо такімі моцнымі былі, што ніхто іх і сапраўды адолець не мог, пакуль яны разам.

Тады вырашылі ворагі разлучыць братоў і адолець іх па-адным. Падаслалі яны да братоў прыгожую дзяўчыну, і так сталася, што абодва яны закахаліся ў прыгажуню. А дзяўчыне толькі і трэба было, каб братоў між сабой пасварыць. Пачала яна Галу ўсміхацца ласкава, а ў бок Геза і не глядзела.

Пакрыўдзіўся Гез на брата, а той ад кахання зусім розум згубіў: куды дзяўчына пакліча, туды і бяжыць.

Аднойчы запрасіла дзяўчына Гала прагуляцца за раку. Згадзіўся той, але як толькі ступілі яны на другі бераг, напалі ворагі на Гала. І было іх шмат.

Пачуў Гез шум бітвы, кінуўся на дапамогу брату, ды не паспеў. Шматлікія ворагі і на яго кінуліся, і хоць ён мужна з імі біўся, ды нічога зрабіць не мог, бо не было побач брата, а галоўная сіла братоў была ў іх адзінстве.

Так загінулі Гез і Гал, а з тых часоў людзі сталі казаць пра месца, дзе тое адбылося, так: «Гэта там, дзе Геза і Гала забілі». І з цягам часу месца сталі называць Гезгалы.

***Ганна Календа, 6 клас***

# Паданне пра тое, чаму нашу рэчку Моўчаддзю называюць

Жыў-быў князь, а ў яго была прыгажуня-дачка. Многія каралі, прынцы і царэвічы прыязджалі яе сватаць, але яна нікога не хацела бачыць, бо была дзяўчынай наравістай і ганарыстай.

— Ну калі ж ты ўжо замуж пойдзеш? — пытаецца бацька ў князёўны.

— Бацюхна, дык няма ж за каго ісці! — адказвае князёўна.

— Усім прынцам, каралевічам ды царэвічам ты дала паварот ад варот! — закрычаў разгневаны князь на дачку. — Бяры цяпер каня буланага, запрагай у карэту ды едзь. Хто першы сустрэнецца, той і мужам тваім будзе!

Рабіць няма чаго, моцна ўзлаваўся князь, прыйшлося адправіцца дачцэ на пошукі нарачонага. Едзе полем, едзе лесам, едзе побач з ракой і раптам бачыць: юнак каля рэчкі спіць. Спыніла карэту, выйшла, зірнула на яго і закахалася з першага погляду.

— Хлопец, прачніся. Як зваць цябе?

— Завуць мяне Мол, — адказаў хлопец. — А навошта табе маё імя?

— Пакахала я цябе, цяпер ні за што з табою не расстануся. Будзеш маім мужам, — кажа князёўна.

Паглядзеў на яе юнак.

— Князь-бацюхна цябе адправіў мужа шукаць, дык шукай лепшага, а мой бацька — ганчар, маці — швачка, які я для цябе жаніх? — кажа ён. — Адпраўлялася б у палац або ў церам баярскі і там сабе мужа шукала.

А была ў Мола дзяўчына нарачоная, звалі яе Чадзь, а людзі добрыя ўжо даўно яе ласкава Чадушкай называлі. Не толькі прыгожай яна была, але і славілася розумам і норавам ласкавым.

Ды толькі князёўна нічога пра гэта не ведала.

— Ах, Мол! — закрычала яна. — Нічога не магу з сабой зрабіць, душа мая да цябе рвецца!

Загадала яна сваім слугам схапіць хлопца ды ў карэту яго заштурхаць. Але вырваўся ад іх Мол, пабег напрасткі да нарачонай сваёй. А князёўна са слугамі — за ім следам.

Не толькі разумная была Чадзь, але і чароўнай сілай валодала.Ператварылася яна ў рэчку, а Мола акунём зрабіла, які ў той рэчцы плавае.

Шэсць дзён сядзела князёўна на беразе. Усё Мола і Чадзь пільнавала. Прыехаў па яе бацька, кліча дадому, а яна розумам пашкодзілася ды толькі рукой на раку паказвае і паўтарае: Мол і Чадзь, Мол і Чадзь...

Так і не вярнулася князёўна ў бацькаў палац. Ператварылася яна ў чарот на беразе ракі і да гэтага часу сцеражэ каханага. А рэчку гэтую з тых часоў сталі называць Моўчадзь. І колькі ні рвуць людзі чарот каля берага, а яго ўсё больш і больш там расце.

***Насця Жэмайтук, 5 клас***

# Папулярнасць у кішэні

*Бывала, што пасля прагляду відэа нейкага блогера ўзнікала жаданне што-небудзь паздымаць. Сапраўды, а чым я горш? Можа я будучая Каця Клэп ці Дзіма Ермузевіч? І тут з'явілася тысяча і адно пытанне. Дзе браць ідэі для відэа? Як здымаць, манціраваць? Я звярнулася да людзей, якія не пабаяліся гэтых цяжкасцяў. А для большай разнастайнасці выбрала блогераў з абсалютна рознымі кантэнтамі.*

**Чым вы адрозніваецеся ад сярэднестатыстычных людзей, што падштурхнула вас стварыць відэаблогі?**

***Надзя:*** — Мне 19 гадоў. Як вялікая частка людзей майго ўзросту, я студэнтка. Вучуся на геадэзіста ў БНТУ, і мне неверагодна падабаецца мая будучая прафесія. Маё хобі — здыманне відэа, таксама вельмі люблю маляваць. Ну, і як шмат каму з дзяўчат, вельмі мне падабаецца падбіраць строі і касметыку, але пра гэта здымаць не хочацца, бо YouTube гэтым кішыць. Так што не, нічым адрозным не валодаю. Аднойчы глядзела Кацю Клэп і падумала: «Чым я горш?» Потым мама падарыла камеру — і панеслася… Важных мэт я сабе не ставіла. Відэа здымала найперш для сябе. І такім чынам запісала пілотнае відэа, на якім проста штосьці кажу. Яно жудасна зманціравана, хоць мой хлопец дапамог мне разабрацца з праграмай для мантажу. Ён мяне падтрымліваў, прапанаваў здымаць відэа пра ўсялякія крутыя месцы ў Мінску. Так усё і пачалося.

***Улада:*** — Мне 21 год, Я працую мадэллю, люблю манціраваць відэа і пэўна толькі з-за гэтага стала блогерам. Яшчэ ў школе я здымала ролікі для свайго класа на школьных мерапрыемствах. Складаць з маленькіх кавалачкаў цэлае жыццё, асобныя фільмы — гэта самае цікавае для мяне. Потым я доўгі час знаходзілася за мяжой і не мела магчымасці часта камунікаваць са сваімі роднымі і сябрамі. Мне захацелася паказаць ім сваё жыццё ў новай краіне. Я пачала запісваць ролікі, выкладвала іх у інтэрнэт, каб убачылі найперш сваякі і сябры, але атрымалася так, што іх пачалі глядзець і незнаёмыя людзі. Мой адзіны напарнік — гэта штатыў, які заўсёды мне дапамагае. Але калі штатывам карыстацца нязручна, то заўсёды на дапамогу прыйдзе чалавек, які побач. У мяне гэта звычайна мама. З ідэямі часта дапамагаюць гледачы. Яны ж даюць парады. Але заўсёды прасцей рабіць усё самой, каб ні ад каго не залежаць.

**— Ёсць б'юці-блогеры, ёсць блогеры-лайфакеры і г. д. Да якога тыпу блогераў вы сябе прылічаеце? Якія тэмы актуальныя на вашым канале?**

***Надзя:*** — У мяне змешаны кантэнт. Ёсць урокі па маляванні, водгукі пра розныя месцы, канцэрты, пародыі на кліпы, выклікі, проста відэа з жыцця маёй групы ва ўніверсітэце. Увогуле, што прыходзіць у галаву, тое і здымаю. Часам сябры падкідаюць ідэі, часам дапамагаюць здымаць. Але звычайна ўсё раблю сама. Дэкарацыі — мой пакой, а аператар — штатыў, які трымае камеру. Бывае, слухаеш нейкую песню і ўяўляеш, што можна зняць на яе. Так звычайна з пародыямі на кліпы адбываецца.

***Улада:*** — Я — лайфстайл-блогер. На маім канале самае актуальнае — гэта гісторыі з майго жыцця.

***— Якія парады маглі б даць тым, хто толькі хоча паспрабаваць сябе ў гэтым занятку?***

***Улада:*** — Галоўнае — рэгулярнасць. Чым часцей выпускаеце ролікі, тым бліжэй ваш поспех. Не трэба пачынаць здымаць відэа, калі не ўпэўнены ў ідэі або сэнсе, якія яно нясе. Таксама не трэба адразу загружаць відэа ў інтэрнэт, калі проста хочацца стаць папулярным, але пры гэтым няма ўмення здымаць і манціраваць. Пачніце з вывучэння праграм па мантажы.

Тэмы могуць быць рознымі. Няма ніякіх абмежаванняў. Лепш, каб гэта было штосьці новае, чаго гледачы яшчэ не бачылі. Канал трэба афарміць у стылі відэа або напісаць асноўную думку канала. Вельмі важна валодаць фоташопам ці іншымі графічнымі рэдактарамі. На сваім канале я ўсё афармляю сама, бо з дзяцінства захапляюся фоташопам. Многія блогеры выстаўляюць відэа, якія не нясуць ніякай ідэі. Я лічу, што гэта не варта рабіць.

***Надзя:*** — Спрабуйце. Не істотна, будзе ў вас мільён гледачоў ці некалькі, важна, як тое, чым вы займаецеся, дапамагае развіваць сябе як асобу.




Подпіс рэдактара

______________

***Вікторыя Лагавік***
***11 клас, СШ № 116, Мінск***

# Школа валейбола



Дасягнуць поспеху, як вядома, справа вельмі няпростая. Праца над сабой, максімум намаганняў — і толькі самыя трывалыя, моцныя і валявыя людзі здзейсняць пастаўленыя мэты. Менавіта такія, бясспрэчна, удзельніцы валейбольнай каманды Дубненскай сярэдняй школы. Пад кіраўніцтвам трэнера Марыі Аляксандраўны Касазубавай гэтая каманда стала пераможцам раённых спаборніцтваў. Акрамя таго, дзяўчаты прайшлі абласны этап і паспяхова выступілі ў яго фінале. На адной з трэніровак юныя валейбалісткі падзяліліся эмоцыямі пасля перамогі, планамі на будучыню, а таксама расказалі пра сваё жыццё.

**— Як вы прыйшлі ў валейбол?**

***Надзея Ролік, капітан:*** — Я вучылася ў 8 класе, калі Марыя Аляксандраўна прапанавала прыйсці проста пагуляць. Спачатку я нават не думала, што ў мяне можа нешта атрымлівацца. Мне падабаліся і валейбол і стыль трэніровак. Было весела. А потым заняткі ў спартзале сталі неад'емнай часткай кожнага дня.

***Аляксандра Сядач:*** — Мая старэйшая сястра наведвала секцыю па валейболе. Я імкнулася не адставаць ад Веранікі і выказала жаданне схадзіць на трэніроўку. Як ні дзіўна, мне вельмі спадабалася! Я была перакананая ў тым, што спорт дапаможа мне стаць мацнейшай не толькі фізічна, але і маральна.




**— Што стварае камандны дух?**

***Ангеліна Богдзель:*** — Паколькі дзяўчынкі ў нашай камандзе вельмі розныя, мы заўсёды шукаем кампрамісы ў спрэчках. Стараемся слухаць і чуць адзін аднаго, бо менавіта гэтаму нас вучыць трэнер, а каманда і трэнер — адзінае цэлае!

***Дзіяна Сцяпанава:*** — Душэўная размова, уменне падтрымаць у патрэбную хвіліну і агульная мэта — вось што робіць нашу каманду згуртаванай.

**— Ці складана «ўліцца» ў ваш калектыў?**

***Кацярына Верабей:*** — У камандзе я не так даўно, але, на здзіўленне, «улілася» хутка. Мой узровень гульні значна адрозніваўся ад узроўню дзяўчынак. Але дзякуючы падтрымцы Марыі Аляксандраўны і каманды з цяжкасцямі я справілася. Стаўшы часткай каманды, я маю не толькі навыкі гульні ў валейбол, але і новых сяброў.

**— Спорт — хобі ці прафесія?**

***Надзея Ролік:*** — Для мяне спорт — хобі. Аднак ён мне спатрэбіцца ў будучыні. Я збіраюся паступаць у вышэйшы каледж МУС, дзе спартыўныя навыкі, вытрымка і дысцыпліна проста неабходныя.

***Ангеліна Богдзель:*** — Я яшчэ не вызначылася, кім хачу быць, але перспектыва стаць выкладчыкам фізічнай культуры і здароўя здаецца мне прывабнай.

**— Падзяліцеся сваім рэцэптам поспеху.**

***Наталля Біркас:*** — Жаданне, вера ў сябе, упэўненасць у сілах каманды. Без гэтых трох складнікаў я не магу ўявіць добры вынік.

***Аляксандра Сядач:*** — Давер, згуртаванасць і мэтанакіраванасць — вось мой рэцэпт.

«Усё маё жыццё — спорт!» — так гаворыць ***Марыя Аляксандраўна Касазубава,*** трэнер каманды. З будучай прафесіяй яна вызначылася хутка, а скончыўшы ў 2013 годзе ГрДУ імя Янкі Купалы, пачала працаваць у Дубненскай сярэдняй школе настаўнікам фізічнай культуры і здароўя. Натуральна, нельга было не распытацца ў яе пра тонкасці трэнерскай працы.

— Раней у Дубненскай сярэдняй школе валейбол быў на досыць высокім узроўні. Многія дзеці праявілі цікавасць да наведвання спартыўнай секцыі, таму ў мяне з’явілася мэта — дапамагчы ім дасягнуць поспеху ў гэтым відзе спорту. Наша галоўная задача — высокія вынікі. Мая асабістая задача — зрабіць так, каб дзяўчаткі паверылі ў сябе. Наперадзе ў іх паступленне, новыя вяршыні, таму сёння мы робім усё магчымае для таго, каб яны маглі працаваць над сабой. Я трэніру вучняў толькі тры гады, але за гэты час мы многае перажылі. Каманда стала часткай мяне. Я заўважаю, як сталеюць мае выхаванкі, становяцца мацнейшымі і цешаць сваімі вынікамі. Але самае галоўнае, я назіраю іх асобасны рост. Яны навучыліся слухаць адзін аднаго, падтрымліваць і суперажываць — гэта не можа не радаваць.




Подпіс рэдактара

***Юлія Мацієўская,***
***Дубненская СШ***

# Рэпартаж з Гадзіны Зямлі




Добры дзень! Я вяду рэпартаж з Гадзіны Зямлі (прынамсі, з асобна ўзятай яе часткі). Наша школа ўдзельнічае ў мерапрыемстве ўжо некалькі гадоў. У 2014-м і 2015-м мы атрымалі сертыфікаты ўдзельнікаў акцыі ад расійскага фонду дзікай прыроды і ШПВРЭ (Школьная Праграма Выкарыстання Рэсурсаў і Энергіі), сёлета таксама атрымалі восем імянных сертыфікатаў ад расійскага WWF (World Wildlife Fund) і падтрымку ад беларускага экалагічнага таварыства «Зялёная сетка». У 2015-м вырашылі праводзіць Гадзіну Зямлі кожную суботу. Па нашых падліках, за год мы сэканомілі больш за 6,5 тысячы кілават электраэнергіі.

У мерапрыемствах, прысвечаных акцыі, бяруць удзел больш як 650 педагогаў і школьнікаў, а таксама іх сябры і родныя. «Гадзіна Зямлі — 2016» вылучаецца конкурсам праектаў па рэсурсазберажэнні «Гадзіна Зямлі: выкажы павагу планеце». Кожны клас распрацаваў свой праект, выклаў яго змест у суполку «Школа руплівых гаспадароў» у сацыяльнай сетцы «ВКонтакте» (https://vk.com/club77444455 — заходзьце, будзем рады!), цяпер рыхтуюцца творчыя справаздачы па выніках дзейнасці.

Але бліжэй да тэмы: чым жа займаюцца нашы школьнікі? Падыходжу да групы сямікласнікаў:

— Як справы?

— Нармальна. Вось наладзілі велапрабег у цемры.

— Правілы не парушаем?

— Крыўдзіш. З намі атрад ЮІР — з імі не пасваволіш. Ды і дзеля чаго? Мы цэнім сваё жыццё і здароўе.

— Цемра не перашкаджае?

— Ніколькі. У нас ліхтарыкі на сонечных батарэях або з дынамічнай падзарадкай — круці педалі, якія выпрацоўваюць энергію. Плануем за гадзіну наматаць кіламетраў з дзесяць.

Голас з натоўпу:

— Але не факт, што гадзіны нам хопіць. Мабыць, на большы час затрымаемся.

Выдатна! Чалавек дваццаць пяць — трыццаць сышлі на ўвесь вечар ад любімых камп'ютараў. Відаць, зарад бадзёрасці і добрага настрою ім гарантаваны. А мы ідзём далей.

У альтанцы недалёка ад школы сядзяць дзесяцікласнікі. Рамантычная абстаноўка: свечкі, музыка. Хлопцы падпяваюць гітарысту.

— Адзначаеце?

— Натуральна! У нас ужо традыцыя склалася — хоць бы раз на тыдзень сабрацца ў альтанцы і паспяваць пад гітару. Дзякуй WWF за цудоўную ініцыятыву! Вырасцем — дзяцей сваіх прывядзём.

Іду да школы, там таксама павінны праводзіцца мерапрыемствы. Па дарозе сустракаюцца маладыя людзі з калыскай, выпускнікі нашай школы.

— Проста так шпацыруеце ці ў «Гадзіну Зямлі»?

— Сумяшчаем карыснае з прыемным. Кожны вечар. Пра Гадзіну Зямлі памятаем — добрая школа за плячыма.

— Удалай прагулкі на карысць сям'і і планеце!

Іду далей. Насустрач маладыя людзі. Цікаўлюся, ці ўдзельнічаюць яны ў Гадзіне Зямлі. Выявілася, што яны і не падазраюць пра яе існаванне. Што ж, ёсць над чым папрацаваць. Тлумачу сцісла, даю каардынаты нашай суполкі. Абяцаюць зазірнуць. Ёсць кантакт! Зважаю на навакольныя дамы. У многіх вокнах гарыць святло. Прыйдзецца правесці яшчэ адну інфармацыйную акцыю ў мікраераёне. Праводзілі летась — святла ў вокнах прыкметна паменшала.

Падымаюся па прыступках роднай школы. У фае працуе дзяжурнае асвятленне — Гадзіна Зямлі ў дзеянні!

Вітаюся з вахцёркай:

— Што ў нас? Святло патушылі?

— Роўна ў дваццаць трыццаць! — усміхаецца Лідзія Станіславаўна.

— А хто ў школе?

— У спартзале чэрлідары трэніруюцца, а ў піянерскай эколагі сакрэтнічаюць. Праходжу ў спартзалу, трэба ж некалькі фотаздымкаў да рэпартажу падрыхтаваць.

— І як вам тут скакаць-танчыць?

— У цемры ды не ў крыўдзе! — смяюцца чэрлідары. — Так нават цікавей!

І з задавальненнем пазіруюць для рэпартажу.

— Што плануеце на перспектыву?

— Думаем свой выступ паказаць у цемры.

— А як жа музыка? Мы ж выключаем электрычнасць?

— Эх, Паша, адстаў ты ад жыцця! У нас плэер на сонечных батарэях. — І ліхтарыкі на сонечных батарэйках набылі. — І пра ШПВРЭ-свечкі не забыліся!

Калі так і далей пойдзе, яны сапраўдны фестываль зладзяць. У лепшых традыцыях энергазберажэння.

Я іду дадому. Дакладней, нясуся з усёй моцы — хутчэй запісаць усё ўбачанае і пачутае. І нічога не забыцца! Такім і падзяліцца не сорамна — разам мы зможам значна больш! Падключайцеся, сябры! Праяўляйце павагу да планеты кожны дзень і кожную гадзіну. Яна гэтага вартая.

P.S. Пакуль дабіраўся дадому, налічыў яшчэ дзве сотні аднашкольнікаў — хто гуляў у хованкі, хто проста шпацыраваў па вуліцах, хто рабіў забаўныя сэлфі. Не стрымаўся, апытаў дзясятак мінакоў, палова — на жаль — пакуль не здагадваецца пра існаванне выдатнай экалагічнай традыцыі. Раздаў візітоўкі «Школы руплівых гаспадароў», спадзяюся, не дарма. У панядзелак перагаварыў з арганізатарамі акцыі ў школе. Па іх падліках у Гадзіне Зямлі паўдзельнічала каля 360 школьнікаў і настаўнікаў, 280 іх сяброў, 160 бацькоў. Сэканомлена каля 270 кілават-гадзін электраэнергіі. Але самы важны вынік у іншым — 800 чалавек праявілі павагу да сваёй планеты і задумаліся пра шляхі больш эфектыўнага энергазберажэння.




Подпіс рэдактара

______________

***Павел Ародзь,***
***СШ № 12, Гродна***

## Я вучуся ў беларусаў



# Закаханая ў кераміку. Разаліна Бусел



*— Калі была маленькай, многія думалі, што я ніколі не змагу нармальна маляваць: выходзілі ў мяне адны «калякі-малякі». Але маляваць і рабіць нешта рукамі я любіла. Сям'я часта пераязджала, і мне было складана кожны раз нанова заводзіць сяброў. Таму часцей я гуляла адна. У тыя нялёгкія часы цацак было мала, і мне даводзілася самой прыдумляць, як і чым разнастаіць дзіцячыя будні. Напрыклад, мне падабалася зімой засыпаць снег у пакеты і пакідаць іх на нейкі час. Калі «скульптуркі» застывалі і пакеты можна было зняць, з'яўляліся першыя ў маім жыцці арт-аб'екты.*

***

З мастаком-керамістам Разалінай Бусел мы сустрэліся ў майстэрні Акадэміі мастацтваў. Уладальніца прыгожага татара-славянскага імя працавала над дыпломам. Разаліна працавала над стварэннем фарфоравых свяцільняў, асвойваючы новую тэхналогію, якая ў свеце керамістаў называецца paper clay. Гэта калі

*Метэарытны дождж*





ў керамічную масу дадаюць паперу. З такога матэрыялу можна зрабіць больш тонкія і празрыстыя вырабы. Агеньчыкі свяцільняў ужо гарэлі, пробныя формы красаваліся на стале. У аснове пакуль яшчэ эскізнага праекта «Развіццё» ляжыць вобраз кукалкі, якая ператвараецца ў матылька. Мастачка не збіраецца паўтараць літаральна прыродны працэс перараджэння. Важны сам прынцып, які дзяўчына выкарыстоўвае ў творчым праекце.

— *Калісьці я хацела ісці вучыцца на дызайн. Гэта было моднае слова. А вось што такое дэкаратыўна-прыкладное мастацтва я разумела не вельмі добра. Вырашыла паступаць у вучылішча культуры імя Крупскай у Магілёве. Паколькі вучылася ў звычайнай школе, ніякай спецыяльнай мастацкай падрыхтоўкі ў мяне не было. Толькі двухтыднёвыя курсы пры вучэльні. На курсах адзін з выкладчыкаў, прагледзеўшы мае працы, падказаў, што мне дарога на дэкаратыўна-прыкладное аддзяленне. Я паслухала, але з першага разу не прайшла. Пахадзіўшы дадаткова ў мастацкую школу, паступіла на наступны год.*

Паступаючы ў вучылішча імя Крупскай, дзяўчынкі звычайна ішлі на тэкстыль, а хлопчыкі на кераміку. Разаліна ўспамінае, як на курсах палохалі, што на тэкстыльным аддзяленні давядзецца начамі вышываць ручнікі і ткаць габелены. А дзяўчыне хацелася чагосьці больш вольнага.

Звычайна хлопчыкаў набіралі па асобным, менш патрабавальным, конкурсе, толькі б вучыліся. Але калі прэтэндэнтаў у студэнты з ліку моцнай паловы чалавецтва не хапіла, дабралі з ліку слабай паловы. І Разаліна Бусел патрапіла ў гэты лік. Цяпер дзяўчына радавалася, што не паступіла першы раз: тады б габелена было не пазбегнуць.

У вучылішчы выкладчыкі дазвалялі студэнтам эксперыментаваць, памыляцца і перарабляць. Першапачаткова ніхто з хлопцаў і дзяўчат сур'ёзна з глінай не працаваў. Першым заданнем для пачаткоўцаў было зляпіць з камяка піялу. Гліну далі нясмачную, застаялую. І з ёй прыйшлося ваяваць. Для Разаліны заданне аказалася нескладаным.

На першым курсе вучэльні Разаліна Бусел пабыла на выставе керамікі «Кола агню», якая стала вынікам пленэру «Арт-Жыжаль». Разаліне адразу захацелася прыняць удзел у самім пленэры. Гэтае мерапрыемства штогод з розных краін на тры тыдні збірае ў беларускім лесе як самых спрактыкаваных керамістаў, так і пачаткоўцаў. Мастакі жывуць у маленькіх хатках на беразе ракі, будуюць печы для абпалу керамікі, колюць дровы і займаюцца творчасцю, абменьваюцца вопытам. Сярод удзельнікаў заўсёды ёсць некалькі студэнтаў, на чые плечы выпадае шмат фізічнай працы. Хоць працаваць даводзіцца ўсім.

*— Спачатку мяне не хацелі браць. Я ж дзяўчына, які з мяне толк у плане фізічнай дапамогі? Але вельмі хацелася патрапіць на пленэр, і ў рэшце рэшт мяне запрасілі. З тых часоў езджу на «Арт-Жыжаль» кожны год. Калі ўдзельнічаць не атрымліваецца — прыязджаю ў госці. «Арт-Жыжаль» стаў для мяне і школай, і домам. А Валерый Аркадзевіч Калтыгін, кіраўнік пленэру, зрабіўся адным з найважнейшых людзей у маім жыцці. Некалькі гадоў запар я заставалася самай малодшай удзельніцай. Таму да гэтага часу на пленэры мяне называюць «дачка палка». Можна сказаць, я там выхоўвалася. Усе дапамагалі, давалі парады, дзяліліся*





*Гульня*

*матэрыяламі і дарылі інструменты. Я абзавялася вялікай калькасцю сяброў розных узростаў і нацыянальнасцей. Мы і цяпер наведваем адзін аднаго.*

*Удзел у мерапрыемстве такога ўзроўню паслужыў штуршком для мяне. На пленэры збіраюцца знакамітыя мастакі, цікавыя людзі. Зносіны з імі, магчымасць убачыць ужывую, як яны працуюць — усё гэта вельмі шмат дае для творчага развіцця. На «Арт-Жыжалі» і на іншых пленэрах можна ўбачыць якія тэндэнцыі пануюць у свеце, якую кераміку робяць у іншых краінах, якія выкарыстоўваюць тэхналогіі. Пачынаеш увогуле думаць па-іншаму.*

Пасля вучобы ў Магілёўскім вучылішчы Разаліна Бусел працягнула вучыцца ў Беларускай акадэміі мастацтваў. Яна ўжо ладзіла з глінай, шамотам. У Акадэміі давялося вывучыць розныя прыёмы стварэння керамічных аб'ектаў, тэхналогію вырабу керамікі, навучыцца выкарыстоўваць, а часам і ствараць самастойна глазуры і пакрыцці, асвоіць больш тонкія матэрыялы, такія як фарфор і фаянс.

Па словах Разаліны, у Акадэміі шмат праектнай і тэхналагічнай працы, шмат практыкі па капіраванні. Звычайна студэнтам даюць пэўнае заданне. Напрыклад, зрабіць анімалістычную скульптуру. Спачатку ідзе работа над копіяй гістарычнага аналага, у асноўным па фотаздымках. Паралельна студэнты вывучаюць гісторыю самога аналага, завода, на якім была выраблена скульптура, аўтара, які распрацаваў форму. Затым робіцца праект аўтарскай скульптуры. Працэс гэты доўгі і складаны.

Падчас вучобы Разаліна Бусел стварала не толькі арт-аб'екты, да якіх у яе ляжыць душа, але і скульптуры птушак і жывёл, посуд. Добрыя магчымасці студэнтам Акадэміі адкрывае штогадовая практыка. Напрыклад, на практыцы ў Добрушы мастачка выконвала сервіз. На фарфоравым заводзе былі выдатныя ўмовы працы і якасныя матэрыялы. За суткі можна было атрымаць гатовы твор. Упершыню маладыя керамісты працавалі з такім фарфорам. Можна сказаць, яны месяц жылі на заводзе, забывалі паспаць і паесці, так ім хацелася працаваць... Таму і сервізаў вырабілі па некалькі варыянтаў, і пра творчыя работы не забыліся.

*— Керамісту ў любой рабоце спачатку трэба прыдумаць, што зляпіць. Але бываюць часы, калі не ведаеш, з чаго пачынаць. Тады можна проста ўзяць матэрыял у рукі — і справа пойдзе сама. Гліна падкажа ідэі.*

Акрамя працы з керамікай Разаліна Бусел займаецца камп'ютарнай графікай. Яна стварае партрэты, лагатыпы, арнаменты, інфаграфіку. Але ўсё гэта хутчэй хобі. Яшчэ мастачка спрабуе сябе ў фатаграфіі і здымае невялікія фільмы, часам анімацыйныя. Цягне



*Дынастыя*



*Птушкі*



Браня

Разаліну і да дызайну адзення. Дзяўчына спрабуе рабіць кераміку, якую можна апранаць. Але не дробную біжутэрыю, а буйныя аб'екты, якія нагадваюць браню. Разаліна лічыць, што займацца жывапісам ці дызайнам прасцей. Можна ўсё рабіць, не выходзячы з дому. Ствараць жа керамічныя аб'екты ў хатніх умовах складана. Патрэбна печ, спецыяльныя інструменты і абсталяванне, матэрыялы, гатоўнасць да вялікіх энергазатрат і сюрпрызаў, якія падкідвае кераміка. Пакуль выраб не прайшоў фінальны абпал, нельга лічыць яго гатовым. Бывае так, што вырабы плавяцца ў печы або разбіваюцца. Часам няўдала кладзецца глазура. Ды і цяжар даводзіцца насіць пастаянна. Прафесія кераміста не з лёгкіх. Але яна таго вартая, бо стварэнне керамічных вырабаў можна параўнаць хіба што з чараўніцтвам.

*— Мяне натхняюць падарожжы і зносіны з іншымі мастакамі. На маім шляху сустракаюцца незвычайныя і чароўныя людзі. Мне хочацца рухацца наперад і развівацца. Удзел у праектах, выставах і сімпозіумах дапамагае нарадзіцца новым ідэям, дае мозгу падзарадку. Гэта яшчэ і спосаб атрымаць вядомасць, магчымасць паказаць свае работы, данесці свае ідэі. Дзякуючы гэтаму мастаком пачынаюць цікавіцца, з'яўляюцца замовы. Я не вельмі люблю прадаваць работы. Мне лягчэй падарыць. Бязвыплатна лягчэй адрываць ад сэрца сваё тварэнне. Асабліва калі аддаеш яго ў добрыя рукі. Таму многія са сваіх аб'ектаў я дару. Часам выконваю што-небудзь на заказ. На шчасце, заказчыкі мне трапляюцца творчыя, з імі лёгка працаваць.*

У дыпломе Разаліны Бусел хутка будзе значыцца надпіс: «Мастак дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — выкладчык». Дзяўчына прызнаецца, што пакуль кепска ўяўляе, што будзе рабіць далей. Ёсць жаданне вучыцца, магчыма, у іншай краіне. Вядома, можна пайсці працаваць на завод ці паспрабаваць сябе ў ролі выкладчыка. Але пакуль думкі ў асноўным аб дыпломнай рабоце. І аб праекце «Кусто» — запланаванай на жнівень выставе на падводную тэматыку, дзе маладыя мастакі збіраюцца стварыць атмасферу сапраўднага апускання ў марскія глыбіні.

*— Я ўлюбёная ў кераміку. Мне падабацца працаваць з формай і колерам, эксперыментаваць, выкарыстоўваць новыя тэхнікі і прыёмы. Для гэтага неабходна мець сваю прастору, у ідэале — майстэрню. Мне хочацца самавыяўляцца, тварыць! Мару прысвяціць сваё жыццё творчасці. Мне здаецца, чым больш будзе мастацтва і творчасці, тым лепшыя будзем мы самі і свет вакол нас.*

***Анастасія Сасноўская***



# З чаго пачынаецца мастак?

**Н**а сваім жыццёвым шляху мы сустракаем шмат розных людзей, і ў кожнага — свой талент. Ды вось не кожнаму дадзена адразу яго раскрыць. Але ёсць тыя, хто здольны заўважыць і раскрыць талент не толькі ў сабе, але і ў іншых.

Мне пашанцавала, на маім жыццёвым шляху сустрэлася настаўніца Барысаўскай дзіцячай школы мастацтваў Дар'я Уладзіміраўна Несцяровіч. Я пачала вучыцца ў яе ў сёмым класе. Тры гады, пакуль я вучылася ў мастацкай школе, я не ведала, наколькі карысным будзе ўсё тое, чаму яна мяне вучыла. Я зразумела гэта толькі з цягам часу, калі пачала хадзіць на мастацкія выставы і пісаць пра іх. Дар'я Уладзіміраўна вельмі цікавы чалавек, цудоўны настаўнік, у яе ёсць чаму павучыцца.

**— Колькі вам было гадоў, калі пачалі маляваць і зразумелі, што хочаце гэтым займацца?**

— Пачала маляваць я ў дзесяць гадоў. А зразумела, што хачу гэтым займацца, калі паступіла ў педагагічны каледж і праходзіла практыку ў малодшых класах. Аднойчы, калі праводзіла ўрок малявання, зразумела: гэта маё! Тады адна выкладчыца прапанавала прыняць удзел у алімпіядзе нашага каледжа: калі там, маўляў, атрымаю перамогу, тады адправяць «на рэспубліку». Спачатку я разгубілася, таму што не лічыла сябе лепшым мастаком. Але яна сказала, што дамовіцца з дырэктарам мастацкай школы, Станіславам Іванавічам Баярэнкам, каб я пазаймалася ў яго. У алімпіядзе каледжа я перамагла і пайшла-такі «на рэспубліку», заняла трэцяе месца. У выніку паступіла ва ўніверсітэт імя Машэрава ў Віцебску на мастацка-графічны факультэт.

**— Як бацькі ставіліся да вашага выбару?**

— Заўсёды добразычліва. Яны лічылі, што іх дзіцё павінна займацца тым, што яму падабаецца. Мой брат таксама мастак. І мой прадзед быў таленавітым чалавекам: выдатна іграў на скрыпцы, маляваў, займаўся разьбой па дрэве. У нас захавалася сямейная рэліквія: яго запісная ксёнжка, вокладка якой упрыгожаная разьбою, а на адваротным баку — вельмі прыгожы, падобна, вінтажны подпіс аўтара.

**— Вы прымалі ўдзел у нейкіх выставах?**

— На жаль, амаль не, таму што працую як настаўнік, ад таго няшмат вольнага часу маю. Хіба што ў студэнцкіх. І адзін раз у выставе ад нашай мастацкай школы (была выстава работ выкладчыкаў). Атрымліваецца, што толькі два-тры разы.





**— Чаму вы захацелі вучыць іншых? Чаму не захацелі развіваць уласны мастацкі талент, каб вашы работы экспанаваліся на выставах ды ў музеях?**

— Калі была студэнткай — марыла стаць мастаком. А як выйшла замуж, то зразумела, што цяпер яшчэ жонка і матуля.

**— І вы задаволены, што менавіта так усё склалася ў жыцці?**

— Так, мне сапраўды падабаецца вучыць дзяцей, радавацца іх перамогам. Асабіста мне прыемна, калі бачу ўдзячных вучняў (*усміхаецца*). Мабыць, гэта лепшая прафесія, якая толькі можа быць, — таму што бачыш яе вынік.

**— Наколькі я памятаю, у вас ёсць сын. І вучыцца ён у гэтай мастацкай школе. Як здарылася, што ён прыйшоў сюды вучыцца: гэта было яго жаданне ці мамін наказ?**

— Аднойчы я купіла кнігу пра архітэктуру з XIX стагоддзя і да сённяшніх дзён. Яна яму вельмі спадабалася. Тады ён пачаў глядзець яшчэ розныя перадачы па тэлебачанні пра дызайн і архітэктуру. Пад уплывам гэтага вырашыў, што стане архітэктарам. Паступіў у нашу мастацкую школу. Але, калі пачаў вучыцца, зразумеў, што ўсё не так лёгка, як здавалася (*смяецца*).

**— Як вы лічыце: у кожным ёсць зярнятка таленту ці кагосьці можна вылучыць сярод астатніх дзетак?**

— У кожным ёсць сваё зярнятка таленту, і мне хочацца яго знаходзіць у дзецях. Але ўсё залежыць яшчэ і ад зацікаўленасці чалавека. Калі відаць, што адзін зацікаўлены больш, чым астатнія, тады яму і ахвяруецца больш часу. Але я стараюся адводзіць час кожнаму.

***

Дар’я Уладзіміраўна Несцяровіч працуе ў школе ўжо 11 гадоў. Яе вучні атрымалі 8 дыпломаў з конкурсу, які праходзіў у Італіі. Сёлета адна дзяўчынка атрымала бронзавы медаль на конкурсе «Я жыву каля мора», які праходзіў у Літве. І свайго сына Дар’я Уладзіміраўна выхоўвае не толькі як маці, але і як настаўніца. І яна напэўна ж ведае адказ на пытанне: «З чаго пачынаецца мастак?» А вы можаце адказаць на гэтае пытанне?

***Настасся Капцава***

# «Цуд» Рамана Сустава



Шмат хто чуў пра такія кірункі мастацтва як жывапіс, малюнак, графіка, але мала хто ведае, што такое афорт. Афорт (разнавіднасць графічнай тэхнікі) — гравюра на медзі або цынку з малюнкам, пратраўленым кіслатой, а таксама адбітак з такой гравюры.

Адным з аўтараў, якія працуюць з афортам, з'яўляецца сучасны мастак Раман Сустаў. Ён нарадзіўся ў Мінску 28 снежня 1977 года. Скончыў дзіцячую мастацкую школу № 1 у 1993 годзе, Беларускі мастацкі каледж нумар 26 у 1995-м, з 1995-га па 2001-ы вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў на аддзяленні графікі. Працуе ў станковай і кніжнай графіцы, міні-прынце, з'яўляецца супрацоўнікам кафедры графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Прымаў удзел у розных выставах і праектах у Беларусі і за мяжой.

Яго твор, які прыцягнуў нашу ўвагу, — афорт «Цуд». У рабоце Рамана відавочная любоў да элементаў, якія ён дэталізуе, наколькі гэта магчыма. Але першае, на што звяртаеш увагу, — дзве фігуры: жанчына і мужчына. Яны падаюцца велізарнымі — за кошт маленечкіх будынкаў горада і вельмі нізкай лініі гарызонту. Яны паўстаюць не як людзі, а як гіганты, волаты, божаствы. Твары гэтых асоб маюць супрацьлеглую эмацыянальнасць. Жанчына падаецца бесклапотнай, яе позірк спакойны і адкрыты. Рукі вытанчаныя і далікатныя. Мужчына, наадварот, увасабляе грунтоўнасць і сілу. Ёсць яснае ўражанне, што ён нясе адказнасць за нешта, матэрыялізаванае ў белы шар-сімвал, які ён перадае жанчыне. У міміцы волата-мужчыны мы бачым ноткі трывогі, занепакоенасці, прадчуванне бяды. Гэта выразна перадае цень на твары. Паміж двума тварамі, якія нясуць супрацьлеглае семантычнае значэнне, размешчаны белы шар. Такім чынам, будуецца кампазіцыя — шар з'яўляецца дамінантай. Заўважым, што дамінанта падтрыманая невялічкай выявай круглага месяца.

Аўтар афорта «Цуд» гуляе з акадэмічнымі законамі святлоценявога малюнка, выкарыстоўваючы іх як уласны інструмент: лёгка і віртуозна.

Матэрыяльны кантэнт афорта створаны з далікатнага срэбра, крохкага, эфемернага. Яно нібыта вось-вось рассыплецца. Манахромнае рашэнне афорта часта задае пэўную халодную атмасферу выяве, але не ў нашым выпадку. Работа нібыта выпраменьвае цяпло. Такім уражаннем мы абавязаны велізарнай працы аўтара, які ўкладае ў свае творы душу. Хіба ж гэта не цуд?

***Настасся Капцава, Алеся Галота***

# Як навучыць герояў размаўляць?




*Калі памятаеш, мой юны аўтар, мы з табой дайшлі да таго, што кожны герой у творы — асаблівы. І значыць, мова ў кожнага героя — свая, таксама асаблівая, уласцівая толькі гэтаму герою. Герой раскрывае свой унутраны свет праз учынкі і мову. І вельмі важна не толькі тое, што ён гаворыць, але і як ён гэта гаворыць!*




Азірніся і паслухай: кожны чалавек мае адметнасці маўлення, так жа? Адзін спяшаецца і глытае канчаткі, другі ўжывае слоўцы-паразіты кшталту «ну», «гэта», «карацей», трэці павольны, нешматслоўны, цэдзіць з сябе сказы праз зубы. Гэта адна адметнасць. А другая — лексічнае багацце. Вось вясковая бабулька. У яе мове шмат слоўцаў з памяншальна-ласкальнымі суфіксамі — «унучачка», «рэчанька», «лясочак», «ночачка», «дзянёчак». Мясцовая гутарка поўніцца дыялектызмамі, у ёй шмат афарызмаў. А вось, скажам, вучоны дзядзька. Дык у яго і ў звычайнай размове будуць сустракацца спецыфічныя слоўцы, мова будзе дакладнай, лагічнай. Напрыклад, спытаем у той бабулькі і таго дзядзькі пра надвор'е: якім яно будзе ў наступную нядзельку?

Бабулька скажа:

— Хто ж тое ведае? Як Бог дасць, унучак, так і будзе. Будзе дожджык — зямельку напоіць, будзе сонца — градку праполем…

А дзядзька, мабыць, нахмурыць бровы:

— Дакладнасць прагнозу змяншаецца ў геаметрычнай прагрэсіі ў залежнасці ад доўгатэрміновасці. Шэсць дзён — вялікі тэрмін нават для дзесяціпрацэнтнай верагоднасці…

Адчуваеш розніцу?

Ага, скажаш, добра браць дзядзьку вучонага побач з бабулькай! А ў мяне — аднакласнікі! Яны ўсе аднолькавыя…

Не, дружа, усе розныя. Ты толькі больш пільна прыслухайся. І заўважыш адну цікавую рэч: размоўная мова вельмі адрозніваецца ад літаратурнай, ад мовы аўтара. Мы з табой — людзі пісьменныя і мусім пры напісанні апавяданняў прытрымлівацца пэўных правілаў — у пабудове сказаў, абзацаў, кавалкаў. Робіцца гэта і для таго, каб чытач лёгка прымаў тэкст, каб чыталася яму без цяжкасцей. А вось у гутарцы людзі часта парушаюць парадак слоў у сказах, калі хочуць акцэнтаваць

# 11 крокаў да літаратуры: версія Віктара Шніпа

***Натхняешся вершамі, а сам не можаш прыдумаць ні радочка? Ёсць патэнцыял, але няма дзеянняў? Тады гэтыя парады ад Віктара Шніпа — для цябе.***

1. Самае галоўнае — адразу пачаць пісаць па-беларуску, як бы цяжка гэта ні было.
2. Кожны дзень чытаць хоць бы 3 старонкі прозы або 10 вершаў. Чытаць і спрабаваць разабрацца, чаму так напісана, а не інакш.
3. Спрабаваць перакладаць вершы рускіх паэтаў на беларускую мову. Будзе складана — але ж нічога ўпершыню лёгкім не бывае.
4. Не баяцца паказваць свае творы людзям, якія ў гэтым разбіраюцца ці самі пішуць.
5. Наведваць літаратурныя аб'яднанні.
6. Адпраўляць свае творы ў рэдакцыі і не баяцца атрымаць крытычны водгук.
7. Не крыўдаваць на крытыку. Слухаць усіх, але і мець сваю думку.
8. Выпісваць літаратурна-мастацкія выданні. Калі нельга выпісаць — чытаць у бібліятэцы.
9. Пісаць амаль кожны дзень, калі гэта магчыма і ёсць натхненне. Літаратуру можна параўнаць з вадой, якая цячэ з крана, — напачатку ржавая, а потым чыстая. Так і ў творчасці: спачатку слабавата, а затым з'яўляецца майстэрства, чысціня ў думках і іх выказванні.
10. Не думаць пра прэміі, але ўдзельнічаць у конкурсах.
11. Радавацца чужым поспехам, як сваім. Натхнення!

***Запісала Маргарыта Гайдаржы***

увагу на нечым асабліва для іх важным. Зноў пераканаемся на прыкладзе.

Вось так пра нейкі факт нам расказвае аўтар: «Марыйка цвёрда вырашыла на чарговую школьную дыскатэку абуць туфлі на высокіх абцасах».

А цяпер уявім сабе героя, скажам, дзяўчынку, якая даведалася пра такі факт і дзеліцца ім з сяброўкай. Гучаць гэта можа так: «Ты уяўляеш? На дыскач Марыйка на абцасах заявіцца сабралася!»

О, ты правільна звярнуў увагу: у мове героя з'явілася слова «дыскач»… А слова «заявіцца» тут ужытае як быццам і няправільна. Што ж, мы з табой перайшлі да той асаблівасці мовы, якая завецца слэнгам.

Пытанне: ці трэба ў мове герояў ужываць слэнгавыя слоўцы? У якой ступені? А грубыя слоўцы? Ці нават лаянкавыя?

Складанае пытанне. З аднаго боку, той самы маладзёжны слэнг надасць мове праўдзівасці, ажывіць яе. А з другога… законы літаратуры павінны быць дзейснымі нават у мове герояў. Павер, дружа, пісьменніку няма неабходнасці перадаваць цалкам нечыю грубую, лаянкавую мову, каб паказаць нявыхаванасць. Нельга «ажыўленне» мовы герояў, набліжэнне яе да існуючай гутарковасці браць за самамэту. Гэта толькі на першы погляд здаецца, што твор ад гэтага выйграе. Усё добра ў меру! Вось і апошні наш прыклад — нам можна не пісаць слова «заявіцца», сказ нічога не згубіць, у ім захаваецца маладзёжны слэнг, а мова пазбавіцца непрыгожага прымянення двух дзеясловаў запар.

Што, складана атрымліваецца? Так, дружа, мова герояў — то і для слыннага пісьменніка няпроста, а ўжо як атрымаецца ў яго добра, дык пасля ўсе крытыкі гэта падкрэсліваюць: ай, добра, жывая мова ў герояў, у кожнага свая! То і ты імкніся адразу да гэтага.

***Дзядзька Кузьма***

# Бабка напалам сказала, што розуму палата

***Кнігі і часопісы, фільмы і серыялы, школьныя заняткі, размовы — усюды, дзе толькі гэта магчыма, можна сустрэць старадаўнія прыказкі, якія робяць гаворку больш цікавай і разнастайнай. Але ці заўсёды мы разумеем сэнс пачутага? З гадамі часткі выразаў забываюцца, кардынальна змяняючы значэнне першакрыніцы. Прапаную разабрацца ў значэнні некаторых прыказак з рускай мовы.***

## «ГОЛ КАК СОКОЛ»

Ці задумваўся ты над сэнсам гэтай фразы? І ці можа птушка, пакрытая пёрамі, быць голай? А вось і не, у прыказцы гаворка ідзе зусім не пра птушак. «Сокол» (націск на апошні склад) — гэта абчасанае бервяно. Без кары, гэта значыць голае.

Па іншай версіі філолагаў, «сокол» — гэта драўляны кол, які на Русі выкарыстоўвалі ў якасці апоры для старога плота, калі ён развальваецца. У сялян — бедных людзей — не было магчымасці паставіць новую агароджу, таму ранейшую падтрымлівалі, як толькі маглі. Поўная версія прыказкі гучыць так: «Гол как сокол, а остёр, как топор» — небагаты, але вёрткі.

## «УМА ПАЛАТА»

Ты ж ведаеш, што палата — гэта вялізнае памяшканне? Дык чаму ж прыказка мае іранічны падтэкст? Уся справа ў тым, што з цягам часу «хвосцік» мудрасці забыўся, а значэнне засталося. На самай справе прымаўка мае працяг: «Ума палата, да разума маловато» або «Ума палата, а ключ потерян». Так кажуць пра чалавека, які імкнецца паказаць усім свае веды, якіх на самай справе не мае (ці мае іх у недастатковай колькасці).

## «ОТ ДОБРА ДОБРА НЕ ИЩУТ»

Магчыма, ты разумееш гэтую фразу як «за добрыя справы і ўчынкі не трэба чакаць у адказ дабра — яго не будзе». Гэта добрае разважанне, але да прыказкі яно не мае ніякага дачынення. Даведацца пра правільны сэнс, які хаваецца за словамі, можна з дапамогай поўнага тэксту прымаўкі «От овса кони не рыщут, от добра добра не ищут», які разумеем так: калі ў чалавека ўсё добра, то яму не трэба нікуды сыходзіць і збягаць.

## «БАБКА НАДВОЕ СКАЗАЛА»

Так-так, менавіта «надвое», а не «на дворе», як многія прамаўляюць. Наколькі зразумелая табе гэтая прыказка? Пачуеш поўную версію — і ўсё стане больш зразумела. А гучыць яна так: «Бабка гадала, надвое сказала: то ли дождик, то ли снег, то ли будет, то ли нет». Мудрасць выкарыстоўваюць для абазначэння недарэчных спроб адгадаць падзеі ў будучыні.

## «РЫБАК РЫБАКА ВИДИТ ИЗДАЛЕКА»

Сёння значэнне прыказкі расшыфроўваецца так: людзі з аднолькавымі заняткамі заўсёды знойдуць агульныя тэмы для размовы. Аднак у першапачатковым варыянце мудрасць мела процілеглы сэнс. У поўнай версіі фраза гучыць так: «Рыбак рыбака видит издалека, потому и стороной обходит».

***Сяргей Грудніцкі***

***Сяргей расказаў нам пра значэнні рускіх прыказак. А чаму б табе, шаноўны чытач, не пашукаць беларускія адпаведнікі, ці не напісаць свой артыкул пра нашы фразеалагізмы?***

# Крыжаванка «Народныя прыказкі»

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **1** | ш | ч | а | **С** | ц | е | | | | | |
| **2** | | | | **П** | а | д | в | о | р | ' | і |
| **3** | | б | а | **Р** | а | н | | | | | |
| **4** | | з | л | **О** | ц | е | | | | | |
| **5** | | | | **Б** | я | з | н | о | г | а | |
| **6** | | | р | **А** | ю | | | | | | |

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **7** | | | | **Н** | ё | м | а | н | е |
| **8** | | | м | **Е** | д | з | ь | | |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **9** | | | | **Х** | л | е | б | |
| **10** | | | с | **В** | і | н | н | ю |
| **11** | | с | л | **А** | в | а | | |
| **12** | | | п | **Р** | а | ў | д | а |
| **13** | з | а | г | **О** | і | ц | ц | а |
| **14** | | | | **Б** | о | й | к | а |
| **15** | б | а | г | **А** | т | ы | | |

**ПЫТАННІ:**

**1.** «У каго дзеці, у таго ...»
**2.** «На сваім ... і сабака — пан»
**3.** «Ад’еўся, як пан, а дурны, як ...»
**4.** «Каб не дзірка ў роце, хадзіў бы ў ...»
**5.** «Дзе нянек многа, там дзіця ...»
**6.** «У сваім краю як у ...»
**7.** «Чым за морам віно піць, лепш у ... вадзіцу»
**8.** «Госць першы дзень — золата, другі — срэбра, а на трэці — ..., дамоў едзь!»
**9.** «Якая зямля — такі і ...»
**10.** «Прыбяры ... хоць у золата — усё роўна ў хлеў пойдзе»
**11.** «Якая справа, такая й ...»
**12.** «Усё мінецца, адна ... застанецца»
**13.** «Рана ..., злое слова — ніколі»
**14.** «Каму што, а пеўню — ...»
**15.** «У судзе ... рэдка вінаваты»

***Падрыхтаваў Сяргей Грудніцкі***




Фатограф Мая Рабцава

# Спартыўнае лета

Гэты год мне вельмі шанцавала — удалося пабываць у Польшчы. Там пабачыў я ўсяго нямала, свет шырэйшым стаў крыху і большым.

Раз сябры-палякі папрасілі:

— Раскажы, Уладзік, нам пра школу. Што вы на канікулах рабілі? Для дзяцей жа лета — час вясёлы!

Я з адказам доўга не збіраўся — мне пра школу ёсць што расказаць. Але потым штосьці завагаўся, бо не ведаў я, з чаго пачаць.

Расказаў сябрам пра злёт турыстаў, што і хлопцаў, і дзяўчат сабраў. Кухараў, спартсменаў і артыстаў у адной камандзе аб'яднаў.

З розных устаноў спецыялісты пашыралі школьнікаў культуру: гутаркі, дыскусіі, выставы пра здароўе, спорт і фізкультуру.

А яшчэ была гульня «Зарніца», вельмі спадабалася яна. Захапіліся — аж не спыніцца, мы б гулялі нават дацямна.

А спартландый колькі! Ну, паверце, цяжка мне было іх палічыць. Колькасцю такіх мерапрыемстваў удалося мне сяброў здзівіць.

А спаборніцтвы на нашым стадыёне! Кліча ўсіх туды гульня футбол. Хлопцы нашай школы — чэмпіёны! Любяць валейбол і баскетбол. Шашкі захапляюць іх таксама, летам можна ў шахматы згуляць. І для школы добрая рэклама — калі ўдасца «месца» атрымаць.

Віктарыны, гульні-падарожжы — мы з карысцю бавім час вясёлы. Конкурсы малюнкаў, фотакросінг — нават летам мы бяжым у школу.

У сяброў палякаў запытаўся:

— Ці ўдалося нечым вас здзівіць?

І затым са шчырасцю прызнаўся, што хачу да нас іх запрасіць.

Вельмі многа спраў у нашай школе, фізкультура, спорт — гэта для нас.

Хутка зазвініць званок вясёлы, запрашаючы дзяцей у светлы клас.

***Уладзіслаў Гурэцкі,***
***9 клас, Бастунская СШ, Воранаўскі раён***

# Малі

Новае мыла было белага колеру з далікатна-ружовымі палоскамі рознай шырыні. А яшчэ ад яго зыходзіў найпрыемнейшы кветкавы з лёгкай кіслінкай водар, які цяжка апісаць словамі. І таму было прынята рашэнне дастаць мыльніцу, якую калісьці падарыла маці на дзень нараджэння яе лепшая сяброўка, тым больш што падарунак гэты ўжо паўтара года пыліўся на верхняй паліцы ў шафе.

Мыльніца-падарунак была шкляной, у форме ракавінкі. Унутры рознымі колерамі пераліваліся блёсткі, падобныя на зоркі. А калі ў яе паклалі новае мыла, усе члены сям'і доўга любаваліся тым, як мыла і мыльніца падыходзяць адно да аднаго. Мыючыся, чарговы раз адзначылі, што мыла вельмі смачна пахне.

Дзень скончыўся, у пакоях пагасла святло. Усе пайшлі спаць. У гэты час у ваннай мыла ляжала на сваім месцы.

— Прывітанне! — сказала яно мыльніцы.

— Прывітанне! — сарамліва адазвалася тая.

— Як цябе завуць?

— Не ведаю, — яшчэ больш сарамліва і нават бянтэжачыся адказала «ракавінка».

— Як ты можаш не ведаць свайго імя? — здзівілася мыла.

— А ты ведаеш сваё імя? — у сваю чаргу спыталася мыльніца.

— Вядома ж, ведаю! — сказала мыла. — Я — Эль.

— Прыгожа.

— Дзякуй! — Эль было прыемна. — Можна я буду называць цябе Малі, раз ты не ведаеш, як цябе завуць?

— Малі? Мне падабаецца, — пагадзілася мыльніца. Яна была рада, што ў яе ёсць імя.

— Ты даўно тут жывеш? — працягвала цікавіцца Эль.

— Не вельмі, я была ў скрынцы і амаль увесь час спала. Мне было сумна і самотна. Я марыла знайсці сябра. Скажы, ты будзеш маім сябрам?

— Канешне, Малі.

Малі і Эль сталі сябрамі. Ім было вельмі весела разам. Цэлымі днямі і начамі яны размаўлялі пра ўсё на свеце. Гулялі ва ўсе гульні, у якія толькі маглі. Часам здаралася так, што людзі забывалі класці мыла ў мыльніцу і пакідалі яго на палічцы. Тады Эль скакала ўніз і спрабавала выслізнуць з ванны да Малі. Але звычайна нічога не атрымлівалася, і мыла знаходзілі на падлозе. Пасля некалькіх такіх выпадкаў Эль навучылася няблага слізгаць па ванне, вырысоўваючы розныя фігуры. І, калі чарговы раз мыла забыліся вярнуць на месца, яно вырашыла паказаць сяброўцы, чаму навучылася. Яно скочыла ўніз і крыкнула: «Малі, глядзі, што я ўмею!» З гэтымі словамі Эль намалявала круг па ванне, потым сэрцайка, знак бясконцасці і яшчэ некалькі больш складаных фігур.

Мыльніца зайздросціла мылу: яно магло рухацца. А ў Малі гэта атрымлівалася з цяжкасцю. І зараз ёй так захацелася маляваць разам з Эль. «Ракавінка» пачала рухацца. Гэта адбывалася даволі павольна, хоць і дапамагала тое, што на паліцы, на якой знаходзілася Малі, былі кроплі вады. Мыла не заўважала дзеянняў сяброўкі. Яно было цалкам захоплена слізгаценнем. Тым часам Малі ўжо набліжалася да краю. Эль нарэшце спынілася, каб перавесці дух. Убачыўшы сяброўку, яно крыкнула, каб тая не рухалася.

Але было позна, большая частка мыльніцы ўжо вісела ў паветры. Мылу трэба было хутка думаць, як дапамагчы Малі. Яно ўзлезла на супрацьлеглы край ванны, ірванула ўніз з усёй сілы. Вылецела адтуль, як з трампліна, і прызямлілася на падлогу за пару секунд да падзення мыльніцы. Так, зваліўшыся не на цвёрдую падлогу, а на Эль, «ракавінка» не разбілася. Яна была ў жаху і нічога не разумела. Мыла патлумачыла ёй, што яна шкляная і магла разбіцца.

Пасля гэтага выпадку дружба Эль і Малі стала яшчэ мацнейшай. Цэлы месяц яны весяліліся. Але гэта не магло працягвацца вечна.

— Малі, мне трэба з табой пагаварыць, — усхваляваным голасам сказала мыла.

— Пра што пагаварыць?

— Ты заўважыла, што мяне стала менш?

— Так, а што?

— Падумай, я паступова буду змяншацца і хутка мяне зусім не застанецца.

— Хочаш сказаць, што ты загінеш?

— Так, і вельмі хутка!

— А як жа я? Я таксама памру?

— Гэта аднойчы ледзь не здарылася з табой, памятаеш? Толькі так ты можаш памерці.

— Тады, калі цябе не стане, я разаб'юся.

— Не, Малі, паабяцай, што не зробіш гэтага!

— Я не змагу жыць без цябе, Эль!

— Глупства, яшчэ як зможаш. Людзі купяць іншае мыла, якое стане тваім новым сябрам, і ты забудзешся пра мяне.

— Я ніколі цябе не забуду!

— Абяцаеш, што не разаб'ешся?

— Абяцаю.

Прайшло тры дні. Мыла засталося зусім няшмат. Аднойчы Эль даставалі з мыльніцы, і яно паспела прашаптаць: «Бывай, Малі». Нягледзячы на гэта, «ракавінка» чакала, што яе сяброўка вернецца, клікала яе, але так і не атрымала адказу. Увечары на месцы Эль ляжала новае мыла. Яно было жоўтага колеру з жахлівым аліўкавым пахам. Малі некалькі разоў спрабавала загаварыць з новым мылам, але безвынікова.

Яна прыгадала той час, калі адна ляжала ў шафе, спала і марыла. У галаве круцілася адна думка: разбіцца, разбіцца, разбіцца. Але, стоячы на самым краі, яна ўспамінала словы сяброўкі, абяцанне, якое дала ёй. І кожны раз вярталася на месца і засынала.

Так Малі пражыла цэлы тыдзень. Яна заплюшчвала вочы і ўяўляла, што Эль побач, што яе адсутнасць — гэта толькі страшны сон, які вось-вось скончыцца. Чарговы раз вярнуўшыся ў рэальнасць, мыльніца зразумела, што занадта моцна сумуе па сяброўцы і больш не зможа так жыць. З дня ў дзень засынала з надзеяй ніколі не прачнуцца. Яна тысячу разоў успамінала дзень, калі Эль выратавала ёй жыццё. Марачы вярнуцца ў мінулае, перапісаць сцэнарый і памерці яшчэ тады, калі была шчаслівай. Каб ніколі не выпрабаваць болю, які адчувала цяпер.

І вось аднойчы агіднае аліўкавае мыла забылася вярнуць на месца, і Малі вырашыла, што гэта лёс. Яна пачала рухацца да краю. Вось ёй засталося зусім крышачку… і вось яна ўжо ляціць уніз, на падлогу. Перад вачыма пранеслася ўсё

жыццё, тысячы успамінаў. «Прабач, Эль», — ціха вымавіла Малі. Яна ўпала на падлогу, разляцелася на сотні бліскучых крупінак.

На шум прыбегла маці, за ёй бацька. Уся сям'я знервавалася з-за страты мыльніцы, таму што прыйшлося збіраць на падлозе вострыя шкляныя крупінкі, а потым зноў ставіць на палічку старую, пластмасавую мыльніцу…

Жоўтае мыла нават не заўважыла гэтай падмены…

Ды і людзі не доўга перажывалі, бо ніхто з іх не здагадваўся, што ў звычайнай мыльніцы магла жыць душа, якая здольная так шчыра любіць.

***Анастасія Пілінчук,***
***лаўрэат Магілёўскага гарадскога конкурсу юных пісьменнікаў,***
***15 гадоў, СШ № 18, Магілёў***

# Шкляная кветка і Мятлік

*Казкі школьнага ранца*



Аднойчы Мятлік паляцеў шукаць прыгоды. І раптам заўважыў Кветачку, а тая была празрыстая, нібыта шкло, бо аднойчы сонейка, якое фарбавала кветкі, забылася пафарбаваць менавіта гэтую Кветку.

Вось так Кветка засталася празрыстай, а ўсе думалі, што гэта проста шкло, і абміналі яго, каб толькі не абрэзацца. Кветачцы было цяжка жыць, але тут да яе падляцеў Мятлік.

— Каб табе не было сумна, — прапанаваў ён, — я збудую з цябе хатку. І буду ў ёй жыць і з табой сябраваць. І, можа, з цягам часу ты набярэшся колераў.

Кветка пагадзілася сябраваць з Мятлікам. Але час ішоў, а Кветка так і не набралася колераў і па-ранейшаму сумавала. І Мятлік, убачыўшы гэта, заплакаў. Яго добрыя слёзкі ўпалі на пялёсткі, і Кветка раптам з празрыстай ператварылася ў сіне-блакітную.

— Дзякуй табе, мой Мятлік! — усклікнула яна. — Я падару табе свой чароўны пялёстак. Вазьмі яго і замацуй на свае крылцы! Ён будзе дапамагаць табе.

— А ці захаваецца хатка? — запытаўся Мятлік.

— Так. Я застануся тваёй хаткай, але, калі цябе доўга не будзе, дазволь мне заставацца проста кветкай!

— Добра, — пагадзіўся Мятлік, падзякаваў і паляцеў.

І цяпер Мятлік заўсёды лётае з гэтым чароўным пялёсткам.

Калі вы пабачыце мятліка з сінімі крылцамі, ведайце: у вас з'явіцца талент сяброўства, якое не парушыць ніводзін злыдзень.

# Як багоўка Зорка ў лісточак ператварылася

Жыла-была багоўка, якую звалі Зорка. Ад усіх іншых баговак яна адрознівалася тым, што мела прыгожы хвасток, доўгі і танюткі. А вырас ён вось чаму: неяк баговачка хадзіла на масаж, і ёй так моцна націскалі на спінку, што ў яе пачаў расці хвасток. Зорка дужа ўсцешылася, бо даўно марыла займець хвасток.

А яшчэ баговачка Зорка надзвычай любіла гасцей, таму штодня запрашала іх да сябе. У яе былі цікавая хатка, каруселі, уласная крама і свой гарод. Раслі ў Зоркі там гурочкі, памідоркі, кроп, капустачка, пятрушка і шмат што іншае. Мела багоўка і сад, і машынку. Машынку яна выштукавала з лісточкаў, гліны, пяску і галінак. А яшчэ каля дома ў Зоркі быў невялікі басейн, дзе госці маглі паплаваць і пазагараць. І наогул, баговачка Зорка была дужа добрая і ўсім сваім гасцям рабіла падарункі.

Аднаго ранку баговачка прачнулася, з'ела шакаладнае марозіва і выпіла карамельнага актэйлю. А пасля выправілася пазагараць на сонейку і паплаваць у сваім утульным басейне.

Зорка спачатку крышачку паплавала, а потым пазагарала. Яна ляжала, а сонейка ўсё мацней і мацней прыпякала. І ад яго гарачых промняў баговачка пачала жаўцець. А потым яна зноў пайшла плаваць, не заўважаючы, што стала зусім жоўтай. Баговачка плавала, вырабляючы розныя фігуры, і атрымлівалася так прыгожа! Але з-за гэтага ейная спінка, якая зрабілася мяккай ад сонца, пачала выраўноўвацца, хоць Зорка не адразу гэта заўважыла.

Каля басейна вісела вялікае люстэрка, і баговачка, праплываючы паўз яго, паглядзела на сваё адлюстраванне і раптам заўважыла, што з чырвонай і выпуклай зрабілася жоўтай і пляскатай.

Зорка спачатку засмуцілася, а потым падумала, што цяпер яна здольная стаць сапраўднай актрысай, якой могуць прапанаваць ролю і багоўкі, і лісточка, тым больш што яе хвасток быў нічым не адрозны ад чаранка ліста.

Так што, калі вы пабачыце жоўты ліст з чорнымі кропкамі, ведайце: гэта актрыса-баговачка, імя якой — Зорка.

***Альжбэта Малішэўская-Спрынчан,***
***2 клас, гімназія № 23, Мінск***

Перапынак

# Перадай пачак

Для гульні патрэбны два пачкі з-пад запалак. Дакладней, толькі верхнія іх часткі. Дзеляцца на дзве каманды, становяцца ў калону, першыя у калонах насоўваюць пачак сабе на нос. Потым трэба як мага хутчэй перадаць пачак па чарзе усім членам каманды, з носа на нос, трымаючы рукі за спінай. Калі ў кагосьці пачак упаў, каманда павінна пачынаць перадачу зноў з першага ўдзельніка. Перамагае тая каманда, якая хутчэй скончыць перадачу пачка.

*Душан Джурышыч*

# Вялікі капітан

## ДАЎГАНОГІ

У дожджыка доўгія ногі,
і крок неабсяжны такі,
што ходзіць заўжды
без дарогі,
праз дом альбо плот,
напрасткі.

Адважна ідзе
праз балота...
Дажджу
шлях адкрыты любы.
Гару пераскочыць
з ахвотай,
Над лесам
пасее грыбы.

Маланкі
трымае, як варту,
і з громам
знаёмства вядзе...
І ўсё ж,
ну куды ж ён,
                    упарты,
ідзе,
          і ідзе,
                    і ідзе?

## ЗЛАЯ СЦІРКА

Сцірка злая
работу сабе па душы
выбірала:
на паперы
малюнкі шукала,
а потым сцірала.

Вось Сяржук
на паперы каня маляваў.
Конь за гэта яго
пакатаць абяцаў.
Ды нядобрая сцірка
той малюнак знайшла
і каня зноўку ў цемру
за сабой павяла.

Ну, а Санькаў малюнак —
прыгожая хата.
Каля хаты,
у кветніку,
кветак багата.
Але сцірка
заўзята па хаце прайшлася
і прыступка адна
ад яе засталася.

А Дзеян
над малюнкам сваім пастараўся
і прыгожы пейзаж
у яго атрымаўся.
Вось суровыя сосны
на схіле гары,
там на схіле
і дом прыхаваўся стары.

А ў тым доме —
дзядуля з бабуляй Дзеяна...
Толькі сцірка
пракралася ў горы
падманам,
і да вечара горы
сцірала, сцірала...
Але толькі
самую сябе пакарала.
Малюпасенькай стала,
больш не можа сціраць...

Ну, а горы,
яны там і зараз стаяць!

## ВУЖ-ПАДАРОЖНІК

Аднойчы рашыў
падарожнічаць вуж
ад Данілаўграда
да горада Спуж.
На чым?
Ні на чым!
Проста так,
пехатой...
Папоўз па дарозе:
ці той, ці не той.

Машына так лёгка
вужа абганяе,
высока над ім
самалёт пралятае.
Няспешна паўзе
па абочыне вуж
ад Данілаўграда
да горада Спуж.

Ну, што ты ў дарозе
заўважыў, шафер?
— Масты, павароты
ды выступы гор.

Ну, што ты заўважыў,
Пілот, з вышыні?
— Там воблакі толькі,
куды не зірні.

***Душан Джурышыч бадай што адзін з найбольш вядомых у сённяшняй Чарнагорыі пісьменнікаў. Паэт, празаік, драматург і перакладчык.***

А ты што заўважыў
з абочыны, вуж,
як поўз цэльны месяц
да горада Спуж?

— Я шмат што заўважыў
ў вандроўцы сваёй:
раку,
што вілася празрыстай змяёй,
жытнёвыя хвалі,
на кручах — сады,
каменьчыкаў бляск
каля цёплай вады.
З лазы вінаграднай
я гронкі зрываў,
затым у малінніку
заначаваў...

І так спадабаўся
шлях гэты вужу,
што я вужанятам
аб ім раскажу.

## ЗІМОВЫ МАСТАК

Мастак працаваў
ночку ўсю, давідна...
А што ж маляваў ён
на шыбе акна?
Высокія пальмы,
цюльпана бутон...

Ды ўсё маляваў
белай фарбаю ён...

## ВЯЛІКІ КАПІТАН

З сённяшняга дня я капітан на караблі «Сверушы»,
І не дазволю нікому рана ў ложак мяне адпраўляць.
Капітану не трэба казаць: «Ідзі, вымый вушы!»
Ён сам добра ведае, калі мыцца, калі класціся спаць.

Капітана матросы ягоныя слухаць заўсёды павінны
І выконваць хутка і спраўна ўсё тое, што ён загадае.
На сняданак прыносіць бананы яму, апельсіны,
Ну, а манную кашу ён есці і сам не жадае!

Калі я капітан — то ў любое надвор'е
гуляць маю права,
Бо прастуды ці насмарку хіба ж
капітан баіцца?!
Ён ведае сваю справу, і ведае, у які
бок яму плаваць,
А яшчэ на капітанаў вялікіх нават
мамам нельга сварыцца.

## ВЕРЦЕ — НЕ ВЕРЦЕ

Кот да мышэй
заходзіў у госці:
Кот ім —
найлепшы сябра!
— Чакайце!
Вы зблыталі, мабыць,
штосьці?!
— Ды не,
я сказаў вам праўду!

Рысь толькі траўку
любіла есці,
Камар на буйвале
поле ўзараў.
— Вы, мабыць,
усё ж нам зманілі
дзесьці?
— Ды што вы,
я чыстую праўду сказаў!

Кіты спявалі ў кустах
вечарамі,
а на бульвары,
дзеля красы,
леў
уласнымі кіпцюрамі
маржу старому
раўняў вусы.

Баран з савою
гулялі ў карты,
асёл
вучыўся па буквару...
— Напэўна,
вы гэта казалі жартам?
— Ды што вы!
Я праўду заўжды гавару!

## ДЗЕ СТАЯЦЬ КРОПЦЫ?

Кропка
дзень блукала,
кропка
ноч блукала.
У складаным сказе
месцейка шукала.

Дзе знайсці дарогу?
Можа, хто падкажа!
Паслалі нябогу
ажно ў канец сказа.

## ПАДАРУНАК ВЯСЁЛКІ

Вясёлка, вясёлка,
без справы не гуляй.
У колеры вясёлыя
дзяўчатак апранай.

Вось паясок зялёны,
нібы лісточак клёна.
Вось сіняя спаднічка,
нібы вада з крынічкі.

А вось для кос і косак
З золата заколкі…

Дзякуй за дзівосы,
добрая вясёлка!

***Пераклад Генадзя Аўласенкі***



***Валерый Гапееў***

***У сакавіцкім нумары «Бярозкі» за мінулы год надрукавана два апавяданні вядомага беларускага пісьменніка Валерыя Гапеева, галоўная гераіня якіх — дзяўчынка Жэнька. А гэта яшчэ адно апавяданне аўтара, у якім тая ж Жэнька будуе ў вёсцы… карабель, хоць і даволі незвычайны.***

# Човен вясковых піратаў



Вось і здарылася! Першы раз у маім жыцці я засталася адна. Без мамы і таты ажно на цэлы тыдзень! У іх яшчэ не пачаўся адпачынак, а ў мяне пачаліся канікулы. І вось я — у бабулі!

Мама так хвалявалася, так перажывала. І бясконца мне паўтарала такія простыя рэчы, быццам я магу на іх забыцца: што рукі трэба абавязкова мыць перад тым, як нешта есці, што перад сном трэба таксама мыцца, што нельга некуды ісці далёка без бабулі… Ну я ж дарослы чалавек, што тут са мной можа нарабіцца? Бабуліна вёсачка — ціхая, тут нават машыны амаль не ездзяць.

Тата з мамай паехалі вечарам, а раніцай я прачнулася самастойнай. Паснедала блінамі. Гэта бабуля іх гатавала, калі я прачнулася і слухала нягучны стук на кухні: тое патэльня аб прыпечак, як сама потым пабачыла, бо ўстала і пагледзела. Ух ты! Там, у печцы — гэткая вялізная дзірка, што я пралезу. А за той дзіркай — такі вялізны агонь гарыць! І стаяць чыгункі розныя. А бабуля бярэ гладкі шасток з нейкім кручком на канцы, хвацка чапляе ім патэльню, на якую толькі наліла белага вадкага цеста, — і ставіць патэльню на краёчкі двух чыгункоў,

прама ў тое пекла! Шасток бабуля называе чапельнікам. Ну канешне, бо ім чапляюць патэльні…

Вось, здаецца, зараз цеста на патэльні стане чорным! Але не! Бабуля дзівіццадзівіцца, а потым раз — і тым чапельнікам дастае патэльню! А на ім блінец жоўценькі, такі прыгожы, так смачна пахне, што ажно сліна ў роце збіраецца.

— Сядай за стол, унучачка, — кажа мне бабуля, той блінец раз — і ўжо на белым ручніку, а бабуля на блінец кавалачак масла кладзе… кавалачак растае, бабуля яго відэльцам — і па ўсім блінцы…

Вось такую смакату я ела сваёй першай самастойнай раніцай. Бабуля паглядзела, як я пакутую з відэльцам, і сказала:

— Ай, Жэнечка, бяры вось так, ручкамі… ты ж іх памыла добра, — і тут жа згарнула жоўценькі, бліскучы ад масла блінец у такі цёплы і пахучы канверцік. Ну як такі ўзяць відэльцам? Праколеш — масла ж растала, вадкае, пацячэ… Канешне — рукамі! А рукі пасля памыю…

Дзень быў сонечным-сонечным. Лета прыйшло!

Напачатку я вырашыла ўсё-ўсё агледзець на бабуліным надворку, бо раней ніяк часу не было. Вялікі хлеў быў пустым — раней, калі быў жывы дзядуля, тут стаяла карова, а ў другой палове ляжала сена, так казаў мне тата. Дзядуля памёр, калі я яшчэ не нарадзілася. Цяпер хлеў быў амаль пусты і трошкі таямнічы. А на сцяне хлява, пад страхой, быў падвешаны сапраўдны човен. Невялікі. Некалі даўно за бабуліным агародам былі азярына і балота. Вось дзядуля і зрабіў быў невялікі човен. Азярыны няма даўно, яшчэ як быў тата малы, прыехалі меліяратары і асушылі тое балота. Толькі канава ёсць. Я туды пазней схаджу, там, тата казаў, прыгожа цвіце лотаць. І канава зусім не глыбокая, вераб'ю па калена.

Бабуля правяла мяне на вуліцу, паказала, як трэба націскаць на клямку, каб адчыніліся варотцы ў двор, расказала, што да суседкі прыехала таксама ўнучка…

— А вунь там, бачыш, ужо сабралася дзяцей, — паказала бабуля ўздоўж вуліцы. — Бяжы, сябруйся...

Некалькі дзяцей стаялі ля лавачкі, зацікаўлена глядзелі на дзяўчынку, якая трымала на каленях вялікі-вялікі планшэт. Я падышла і сказала:

— Добры дзень! Мяне завуць Жэнька. Можна мне з вамі сябраваць?

Усе павярнуліся і паглядзелі на мяне, а адна дзяўчынка сказала:

— Ты будзеш апошняя у чарзе, пасля Цімкі. Каб рукі былі чыстыя, і пасля абеду прынясеш нешта смачнае.

Тут я разгубілася.

— У якой чарзе?

— Мы зараз гуляемся у піратаў, хіба не бачыш? Хто болей караблёў захопіць, — патлумачыла мне, як маленькай, дзяўчынка. — Гэта мой планшэт, мяне завуць Яніна.

— Вось жа! — здзівілася я. — Прыехаць з горада, каб тут у планшэце сядзець? Гуляць у піратаў трэба па-сапраўднаму! Давайце!

— А ты нас не вучы, — хмыкнула Яніна. — Не хочаш — ідзі адсюль, мы цябе не гукалі!

Ну, і што мне было рабіць? Канешне, я развярнулася і пайшла да бабулінай хаты. Мне было трошкі крыўдна, а больш дзіўна: хіба цікава сядзець у такі цёплы дзень і дзівіцца ў планшэт? Столькі ўсяго вакол… Прысела на лавачку

пад язмінам і стала думаць: чым мне найперш заняцца? Трэба нарабіць сакрэтаў, гэта раз. Для гэтага трэба назбіраць прыгожых каменьчыкаў, кавалкаў шкла… Па каменьчыкі трэба ісці ў канец вёсачкі — там ёсць бетонны мост над той самай канавай, там будуць каменьчыкі. Пра шкло спытаю ў бабулі. Трэба зараз яе папярэдзіць, што я пайду пад той масток…

Толькі я хацела ісці ў дом да бабулі, як бачу — да мяне ідзе хлопчык. Адзін з тых, хто быў у чарзе, каб пагуляць на планшэце.

— Мяне завуць Сяргей, — сказаў хлопчык і спыніўся насупраць.

— А чаму ты не чакаеш сваёй чаргі? — трошкі з'едліва спытала я.

— Таму што я — саплівы, — шчыра прызнаўся ён, і каб я думала, што ён не падманвае мяне, тут жа шмаргануў носам. — Яны з мяне смяюцца. І ў мяне няма нічога смачнага дома, — без жалю закончыў Сяргейка.

— Тваю саплівасць мы зараз вылечым, — упэўнена сказала я. — Мне мама ўсякіх лекаў надавала…

Я хутка збегала ў дом, дзе ўзяла спрэй, які мне мама пакінула. І Сяргейка папшыкаў сабе ў нос.

— Во… адразу лягчэй, — усміхнуўся ён. — Дзякуй табе. А ты надоўга прыехала?

— Пакуль на два тыдні, — уздыхнула я.

— А чаму ты ўздыхаеш? — здзівіўся хлопчык.

— Дык вось… думала, тут нечым цікавым можна разам заняцца, а ўсе сядзяць вакол планшэта, быццам лета толькі для гэтага і трэба…

— А-а, не, мне не вельмі цікава, — запэўніў мяне Сяргейка. — А як па праўдзе гуляць у піратаў? — тут жа спытаў ён.

— А я не ведаю, — задумалася я. — На сцяне хлява вісіць стары дзядулеў човен…

— Ух ты! — загарэўся Сяргейка. — А пакажы?

І мы пайшлі глядзець човен. Сяргейка яго пакратаў і сказаў, што ён лёгкі, яго можна зняць… зацягнуць у садок пад старую грушу…

— І зрабіць пірацкі карабель! — закончыла я.

Ну канешне! У нас будзе свой карабель!

Мы пабеглі да бабулі — трэба ж папытацца, бо хоць на чоўне і ніхто даўно не плавае, гэта ж не простая рэч…

Бабуля не толькі дазволіла нам, але выйшла сама дапамагчы зняць човен. Ён хоць быў невялікі і сухі, але зусім не лёгкі! Без бабулі мы не здужалі б яго зняць і ў садок не зацягнулі б…

А ў бабуліным садку так хвайна! Тут невысокая зялёная-зялёная трава з жоўтымі кветкамі — гэта дзьмухаўцы будуць. Некалькі яблынь — невялікіх, іх нядаўна тата з мамай садзілі. А човен мы пад грушай паставілі. Груша вялікая, старая, у яе такія тоўстыя сукі! Нас відаць з дарогі праз драўляны плот, але затое і нам усё відно.

Цяпер гэтулькі адразу работы! Трэба зрабіць штурвал! Трэба мачту і ветразь! Трэба знайсці фарбы і падпісаць наш карабель… Вой, колькі ўсяго трэба! Але найперш трэба ісці да бабулі і пытацца пра ўсё.

— Рабіце сабе, што вам уздумаецца, але асцярожна, каб не нарабілі сабе бяды, — папярэдзіла нас бабуля і адвяла ў хлеўчык, дзе было многа розных інструментаў: сякеры, малаткі, долаты розныя, свярдзёлкі… То ўсё ад дзядулі засталося, і тата цяпер карыстаецца. Тут былі і цвікі, пра якія мы пыталіся.

— Ты, Сярожа, самастойны, амаль што мужчына, глядзі ж пальцы акуратна, — вучыла бабуля Сяргейку. — І свае дзівіся, і Жэнечкіны. Як якія вам дошкі трэба ці палкі, дык вось тут і шукайце, бярыце, што спатрэбіцца…

Ура! У нас цэлая майстэрня і човен, які мы будзем рабіць караблём!

Тут Сяргейка зморшчыўся-задумаўся, сказаў, каб я пачакала, і пабег некуды. Вось жа… Я то пачкаю, але мог бы і сказаць…

Праўда, вярнуўся Сяргейка хутка. Ды які! На ім была майка-цяльняшка, а галава завязана касынкай! Зусім як сапраўдны пірат! Тут я таксама вырашыла пераапрануцца і павязаць на галаву касынку. А потым Сяргейка сказаў:

— Капітанам буду я…

— А я кім? Кокам? Есці табе гатаваць? — не дала яму дагаварыць, раззлавалася я. Ты глядзі, хітранькі які: і сад — маёй бабулі, і човен — мой, і малаток, цвікі… Як ён першы пераапрануўся, дык ужо і капітан!

— Не, ты не будзеш кокам, — сказаў мне Сяргейка, вінавацячыся. — Але жанчынам нельга быць капітанамі, будзе лёс у карабля нешчаслівы. Ты будзеш каралевай!

Ух ты, ніяк не чакала… Можа, і праўда — нельга жанчыне быць капітанам на пірацкім караблі? Не паспела я вырашыць, як тут — вы толькі уявіце! — Сяргейка прысеў на адно калена, галаву схіліў і прамовіў:

— Мая каралева, дазвольце мне служаць на вашым караблі!

А мне і смешна, але і так… хвалююча. Устрымалася і адказала як і ён, сур'ёзна і амаль урачыста:

— Служы мне верна і адважна, мой капітан!

— Ты мне павінна яшчэ шпагу на плячо пакласці, — прабубніў Сяргейка і дадаў: — Ох, колькі ўсяго трэба яшчэ: і корцікі, і шпагі, і рамяні...

Устаў, і мы пачалі шукаць і думаць: найперш з чаго зрабіць мачту, як яе замацаваць…

Знайшлі добры шасток, Сяргейка убіў у човен чатыры цвікі… Раз-два-тры-чатыры і мы нацягнулі вяроўчынку, і наша мачта стала!

— А на мачту трэба перакладзіны… А ветразь лепш чорны! — раптам пачулася ад вуліцы.

Глядзім — а каля плота, праціснуўшы твары між калкоў, стаяць хлапчук і дзяўчынка, меншая за яго.

— Гэта Мікітка з Анютай, — патлумачыў мне Сяргейка і крыкнуў у бок дзяцей: — А ты не камандуй з боку! І дзе мы табе чорную матэрыю на ветразі знойдзем? Тут хоць бы якую адшукаць…

— А ў нас дома ёсць старая поліэтыленавая плёнка, — заспяшаўся Мікітка. — Яна рваная… трохі рваная, але ж сапраўдныя пірацкія ветразі павінны быць… ну, не цэлымі… Я магу прынесці… А Анюта вельмі хвайна вырэзвае… Яна б сцяжок зрабіла…

— З Вясёлым Роджэрам? — пад'южыў Сяргейка.

— Канешне! Не глядзі, што ёй толькі сем гадоў, яна ў гуртку займаецца… выцінанкай, вось.

— У нас ёсць каралева карабля, — паказаў на мяне рукой Сяргейка. — Як яна вырашыць, дык… Вы ж яе прагналі ад сябе, як і мяне…

— Я не праганяў, — вінавата апусціў галаву Мікітка. — То ж не мой планшэт… Мы самі пайшлі адтуль, бо Анютка не ўмее на планшэце, ёй не даюць павучыцца. Можна нам з вамі? Мы прынясём плёнку…

А я падумала: хіба нам не цікавей будзе, калі ў нас будзе сапраўдная каманда, а не адзін капітан з каралевай? І гукнула:

— Нясіце сваю плёнку — будзем рабіць ветразі! Я прымаю вас на службу!

— Мы зараз! — радасна падскочыў Мікітка, а Анютка закрычала «Ура», і яны пабеглі па вуліцы.

І хутка вярнуліся — з такімі вялікімі кавалкамі чорнай плёнкі, што нам хопіць на некалькі ветразяў і на сцягі застанецца! І абое — у касынках на галовах. Ура, нас ужо чацвёра!

Мы з Анютай сталі выразаць ветразі, а Сяргейка з Мікітам — рабіць перакладзіны на мачце.

А потым да нас прыйшоў яшчэ хлопчык — Міхась. Ён папрасіў дазволу зайсці ў садок і паглядзець, ну, вось самую крышачку паглядзець… А потым сказаў, што човен можна б было крышку падвесіць над зямлёй… Вось, такі тоўсты сук грушы якраз над ім! І тады наш карабель тады будзе гайдацца, як на сапраўдных хвалях! А падвесіць човен ён можа папрасіць свайго старэйшага брата, бо ён вялікі ўжо і дужы. І тоўстая моцная-моцная вяроўка ў іх ёсць, бацька дазволіць узяць! Толькі вечарам, калі брат прыйдзе з працы. А яшчэ Міхась ведае, як і з чаго можна зрабіць сапраўдны штурвал… Ну, амаль сапраўдны.

Мы, канечне, і Міхася прынялі ў сваю каманду. І пасля яшчэ — дзвюх дзяўчынак, Зосю і Кацярынку. Яны пачалі шукаць па вёсцы, дзе ўсе падзяваліся… Там, каля Яніны з планшэтам, ім траім стала сумна… Дзяўчынкі паабяцалі прынесці фарбы, каб зрабіць надпіс — у іх у хаце фарбавалі столь і крышку засталося, а яшчэ сказалі, што ёсць вялікі кавалак матэрыі, чырвонай-чырвонай… нікому не патрэбны надта, маці ім дазволіць яго ўзяць. З той матэрыі можна зрабіць усім-усім аднолькавыя касынкі, каб была нібыта форма...

Потым бабуля прынесла нам у глыбокай талерцы цэлую горку смачных бліноў, начыненых тварагом, і малако. Мы паселі на траву каля свайго карабля, елі і гаварылі пра тое, што яшчэ трэба зрабіць: сапраўдны кубрык, каб можна было хавацца ў непагадзь, штурвал, больш ветразяў, а яшчэ фарбаваць… І прыдумлялі назву… Так спрачаліся, а потым Сяргейка ўсіх спыніў:

— Жэнька — каралева карабля, ёй і даваць яму імя!

Я прапанавала: назву будзем выбіраць вечарам, а да гэтага ўсе падумаюць і выберуць нешта самае прыгожае.

Пасля абеду мы зноў сабраліся. Усе прынеслі з сабой полудзень — тут так смачна есці ўсім разам, на нашым караблі! А потым Сяргейка сказаў, што Яніна, тая самая дзяўчынка, у якой планшэт, сядзіць адна… самотная на лавачцы. І ў яе зусім-зусім няма настрою, той планшэт побач ляжыць.

— Ну і няхай ляжыць, — прабурчаў Мікітка. — Падумаеш, планшэт…

А я нечакана адчула сябе трошкі вінаватай. Сказала, каб папрацавалі без мяне. І пайшла сама да той Яніны. Яна і праўда сядзела адна і калупала прутком зямлю.

— Хадзем да нас! — адразу запрасіла я. — Чаго ты будзеш зусім адна?

— А вы мяне прымеце? — не дала веры Яніна.

— Я ж цябе запрашаю, а карабель наш — у садзе маёй бабулі, — трошкі пахвалілася я.

— Але ж у мяне… няма нічога, — бадай што роспачна хлюпнула носам Яніна. — Усе нешта неслі: плёнку, фарбу, ежу… І я нічога не ўмею рабіць…

Яніна была гатовая расплакацца.

— Ну вось яшчэ, распеiражывалася! — супакоіла я яе. — У тваім планшэце ёсць жа навігатар, так? — спытала я.

— Ёсць, — здзівілася Яніна. — А… навошта ён табе?

— Не мне, ён нам усім патрэбен! У нас будзе свой пірацкі карабель, а як мы без навігатара ў мора выйдзем? Хадзем з намі — ты будзеш нашым штурманам!

— Праўда? — не паверыла мне адразу Яніна. — Канешне, я вазьму з сабой планшэт і я… мы разам будзем пракладваць маршруты…

— У караблёў не маршруты, там, здаецца, курсы, — успомніла я. — Хлопчыкі лепш ведаюць…

Хутка прыйшоў вечар. Неба было такое прыгожае — ад цёмна-сіняга да светла-ружовага — там, дзе заходзіла сонца. А сонца было вялікімі-вялікім, чырвоным, апускалася ў невялікія аблокі, што фіялетавымі стужкамі віліся над самай зямлёй — там, далёка…

А наш карабель ужо быў ужо з мачтай і трыма ветразямі: адным вялікім і двума меншымі, што ішлі ад мачты да носа! І быў Вясёлы Роджэр на мачце, а мы — уся наша каманда сядзелі ў чоўне. Ён ужо быў над зямлёй — невысока, ледзь кранаўся густой травы, але гайдаўся так, быццам плыў па сапраўдных хвалях…

І мы плылі ўсе разам — туды, дзе такое дзіўнае вялікае чырвонае сонца, на якое зусім не балюча цяпер глядзець…

## Аповесць-канструктар

### *Аліна Длатоўская. Арнаменты*

*Пачатак у нумарах 1—5.*

*Мастачка Наталля Длатоўская.*




Выразай па шэрым пункціры.




Складвай напалам па карычневым пункціры такім чынам, каб старонка 81 (85, 89, 93) апынулася зверху.




На апошнім этапе складзеныя напалам двойчы старонкі трэба склеіць па бэжавай лініі.

***Важна!*** Для склейвання старонак, каб яны не карабаціліся, выкарыстоўвай ***гумавы*** клей.

***Так, месяц за месяцам дадаючы новыя старонкі аповесці, ты можаш стварыць кнігу!***

Хлапец відавочна быў нечым вельмі ўсхваляваны, але не збіраўся з ёй пра гэта гутарыць. Ішоў ён так хутка, што яна ледзь паспявала следам. Час ад часу на шляху ім траляліся іншыя Ваяры. Міра адчувала іх раззлаваныя, недаверлівыя, пагардлівыя погляды. Радаператрэсла ўвесь Сусвет, зведаўшы пра знікненне Усевалада. І цяпер, калі ён вось так проста вярнуўся, выйшаўшы з лесу, ды пакрочыў па вуліцах — мала хто быў рады яго з'яўленню. Толькі чамусьці ніхто не рызыкаваў затрымаць яго ці ўвогуле наблізіцца. У дзверы Рады Майстроў юнак не зайшоў — пайшоў уздоўж забудовы.

З адваротнага боку будынка за густымі дрэвамі хаваўся дадатковы ўваход. Юнак рэзка штурхнуў дзверы, але яны не паддаліся. У гэты ж момант ён злосна пляснуў па іх паверхні і пад яго далонню выбухнуў чырвоны сімвал полымя. У доўгім цёмным калідоры ён не запаволіўся і ні разу не спыніўся, каб удакладніць ці правільна рухаецца. Ён ведаў, куды трэба ісці. Гэтак жа пляснуў далонню па чарговых дзвярах і заляцеў у шырокі светлы кабінет. Каля акна, заклаўшы рукі за спіну, стаяў Кіраўнік.

— Прывітанне, Усевалад, — не паварочваючыся, вымавіў ён. — І вам, Міраслава, добры дзень. А дзе Стэфан?

— Ён не ведае, што я тут.

— Ужо, напэўна, ведае, — Кіраўнік нарэшце павярнуўся ды папляскаў далонню па запясці.

84



81

***

Міраслава зноў прыйшла да нацягнутай пералівістай паверхні Купала, як і кожны раз, калі хацелася супакоіцца ды падумаць. А падумаць было пра што. Некалькі дзён таму яна расказала Стэфану пра свае пачуцці. Ён быў жудасна стомлены ды знерваваны знікненнем Усевалада, а яна спадзявалася такім чынам адцягнуць яго ўвагу. У яе атрымалася, але пачула яна тое, што чакала пачуць, а не тое, што хацела. Ці мог гэты педант і чысцюля адказаць нешта акрамя: «Правілы Унутранага сусвету не прадугледжваюць асабістых адносінаў паміж Ваярамі»? Затое яна больш не трымала гэта ў сабе. Ды і ён цяпер паводзіў сябе больш цёпла, больш шчыра, нібы таксама нарэшце сказаў тое, што даўно мучыла.

Яна задумліва правяла далонню па нацягнутай паверхні купала. Там, звонку віруе жыццё. Недзе ў гэтым жыцці змагаецца з пачварамі тая, дзеля якой любы мужчына парушыў бы правілы. Цікава, як бы адрэагавала сама Вася, ведай яна пра гэтую сітуацыю? Як бы паводзіла сябе са Стэфам? Можа, яна ўжо знайшла таго адзінага, якога так настойліва шукала?

Палатно энергіі пад дзявочымі пальцамі раптам саслабла і зморшчылася, нібы недзе ў ім з'явілася прарэха. Міра б не змагла растлумачыць, што рухала ёю ў той момант, але яна дакладна ведала, у які бок крочыць.

82

Адной рукой ён абапіраўся на меч, што тырчаў з зямлі, другой нібы зашываў нябачнай іголкай невялікую дзірку ў паверхні Купала. Блакітныя іскрынкі падымаліся па лязе мяча да левай рукі і перацякалі з правай на сцяну, сцягваючы парваныя краі прарэхі. Часам ён спыняўся і некаторы час спакойна дыхаў. Міраслава не магла паверыць сваім вачам. У Купале існаваў толькі адзін выхад у Знешні сусвет, які вельмі якасна ахоўваўся і адчыніць які мог выключна Кіраўнік.

— Усевалад! Што ты робіш? — нарэшце яна крыху адышла ад шоку.

Ён коратка зірнуў на яе, фыркнуў і працягнуў працаваць. Праз некалькі хвілін ад прарэхі не засталося ніякіх слядоў, а паверхня Купала зноў нацягнулася. Юнак задаволена выцер лязо мяча травой і схаваў яго ў ножны.

— Мяне гэтаму фокусу навучыў яшчэ першы настаўнік, — ён хутка пашыбаваў у бок забудоў.

— Пачакай, пачакай. Адкуль ты? І куды?

— Мне трэба тэрмінова паразмаўляць з Кіраўніком.

— Ты разумееш, што з табой зробіць Рада Майстроў, як толькі ты там з'явішся? — Міра і сама не ведала, што робяць з вучнямі, якія раней часу трапляюць у Знешні сусвет, — на яе памяці такога яшчэ не здаралася.

— Я іду не ў Раду, я іду да Кіраўніка.

83

— Выдатна, а цяпер забірай яго дадому. Вытрасі з яго ўсё гэтае дурноцце. Толькі не нарабіце там лішняга шуму. І яшчэ, Усевалад, якія б заўвагі я ні рабіў Стэфану — ён выдатны Настаўнік і заслугоўвае таго, каб ты паспрабаваў яго выслухаць. Цяпер усё, вольныя. А я паведамлю Радзе пра пагрозу, якая з'явілася ў Знешнім сусвеце.

***

— Аліса, пра што ты задумалася, сонейка маё? — дзядуля паставіў на ганак поўныя вёдры вады і ўважліва паглядзеў на ўнучку.

— Дзядуля, а ў нас пад дахам заўсёды быў гэты знак?

З-пад страхі выглядвала невялічкае вочка-кола, унутры якога быў выразаны шасцікутнік, а ў шасцікутніку — кветка з шасці пялёсткаў. Такі самы сімвал быў вышыты на скураной куртцы таямнічага незнаёмца.

— Ён там вельмі даўно, мілая.

— Я раней ніколі не заўважала. Адкуль ён?

— Мне падарыў яго адзін вандроўнік. Вельмі шмат гадоў таму. Ён называў гэты знак Перуновай зоркай. Параіў павесіць пад страхой, казаў: на шчасце. А ў самога такі знак быў на плашчы вышыты.

— На плашчы? Дзядуля, раскажы мне пра гэтага вандроўніка! Калі ласка!

— Маці твая якраз ва ўніверсітэт з'ехала, а бабулі ўжо гады два як не было на свеце. Ён тады



— Значыць, у мяне зусім мала часу.

— Ты думаеш, што здолееш выйсці з гэтага пакоя?

Міраслава адчувала, як нацягнулася, напружылася паветра між гэтымі людзьмі. Яна ведала, што Кіраўнік лічыў Усевалада адным з лепшых вучняў, а Усевалад заўсёды выключна паважліва адгукаўся пра Кіраўніка. Менавіта таму ніяк не магла патлумачыць позіркі, поўныя пагарды і недаверу.

Юнак зрабіў некалькі шырокіх крокаў, абапёрся рукамі на стол Кіраўніка і выпаліў:

— Мне ўсё адно. Я згодны на любое зняволенне і любое пакаранне. Але дазвольце не бачыцца са Стэфанам. І выслухайце мяне.

— Трэба было самому цябе выхоўваць. Я слухаю.

— У Знешнім сусвеце зноў з'явілася Вядзьмарка.

— Ты яе бачыў? — мужчына правёў далонню па вуснах.

— Я бачыў яе вучаніцу.

— Ты ўпэўнены? — упершыню Міра бачыла Кіраўніка ўсхваляваным.

— Дзяўчына майго ўзросту, нядаўна пачала бачыць нячысцікаў. Яе навучыла малодшая сястра — усё паводле рытуалу. Ды і самі нячысцікі нібы з ланцуга пазрываліся.

Усевалад паставіў перад Кіраўніком невялічкую шклянку з попелам ды вугельчыкамі, і ў Міры перахапіла дыханне. Хлапчук, які яшчэ нават не скончыў

навучанне, ужо забіў сваю першую пачвару. Яе ахапіла зайздрасць — яна так даўно пра гэта марыла. Мужчына ж выглядаў адначасова зацікаўленым і знерваваным.

— Кіраўнік, у Знешні сусвет трэба накіраваць дадатковы атрад.

— І ты павінен быць у яго складзе? — мужчына іранічна хмыкнуў у вусы.

— Менавіта.

— А Стэфан?

— Мне ўсё адно.

— І ты зможаш з ім працаваць?

— Я ўжо сказаў: мне ўсё адно.

— А яму не, — Кіраўнік паказаў на дзвярны праём, у якім раптам з'явілася знаёмая фігура.

Мужчына стаяў, скрыжаваўшы рукі, і пачуваўся вельмі няёмка. Усевалад зірнуў праз плячо, раззлавана пляснуў далонямі па стальніцы так, што разляцеліся блакітныя іскрынкі.

— Я ж прасіў!

— Ты шмат пра што прасіў. Адну просьбу я выканаў — выслухаў цябе. Будзь удзячным. І супакой сваю істэрыку, інакш я перадумаю вырашаць гэтую справу ціха і ўчыню публічнае пакаранне. Вам абодвум, — Кіраўнік зноў стаў сабой: суровым, самаўпэўненым і ўраўнаважаным. — Цяпер ты, Стэфан. Я цябе папярэджваў, што гэтым скончыцца?



Стэфан збянтэжана перасмыкнуў плячыма і выйшаў на сярэдзіну пакоя.

— Прабачце, Кіраўнік.

— Ты не выбачайся, а адказвай на мае пытанні. Я цябе папярэджваў?

— Так.

— Я табе казаў, што яго энергію трэба ўвесь час трымаць пад кантролем?

— Так.

— Я прасіў цябе больш сур'ёзна падыходзіць да яго выхавання? — тон мужчыны рабіўся ўсё больш жорсткім, а Стэф выглядаў усё больш вінаватым.

— Так.

— Я магу разлічваць на тое, што ты нагадаеш хлопчыку яго месца, калі застанешся яго Настаўнікам?

— Так, — на твары Стэфана з'явілася ледзь заўважная, але неверагодна шчаслівая ўсмешка.

— Стоп, што?! — у гэты ж момант выбухнуў Усевалад. — Ён не будзе маім Настаўнікам! Ён забіў Фелікса! А вы ведалі гэта! Ведалі і ўсё роўна аддалі мяне яму!

Кіраўнік стомлена зірнуў на хлопчыка, звёў бровы, незадаволена паматаў галавой.

— Калі я яшчэ раз пачую ці ўбачу нешта падобнае, я сапраўды ажыццяўлю ўсе свае пагрозы. Ты зразумеў мяне, Стэф?

— Так.

Магутныя заімшэлыя бярвенні, цёмны чарапічны дах, шырокі ганак увесь у белых грамафончыках павою. А на ганку яна, рудая прыгажуня ў зялёнай сукенцы. Вось якой Агнія стане, калі вырасце! Годна прыўзнятая галава, роўныя вузкія плечы, жаноцкі стан, гожыя тонкія рукі, мяккая ветлівая ўсмешка. Сёння яна здавалася яшчэ прыгажэйшай, чым мінулы раз.

— Вітаю, дзяўчаты! Прывітанне, Юрась, — яна ўсміхнулася шырэй ды падміргнула юнаку, з-за чаго ён вокамгненна пачырванеў. — Заходзьце, будзьце як дома.

У хаце пахла вогнішчам, зёлкамі ды старымі кнігамі. Алю адразу ж прывабілі апошнія. Яна ў захапленні гартала зжаўцелыя старонкі, кранала вокладкі ды разглядала малюнкі. Агніі ж больш падабаліся рознакаляровыя шкляначкі, што займалі палічкі побач з кнігамі. Так хацелася ведаць, што ў іх, якое чараўніцтва схавана за гэтымі шкельцамі.

— Падабаецца? — пацікавілася жанчына, задаволена назіраючы за дзяўчатамі.

— Вельмі! — пляснула ў ладкі Агнія.

— У вас вельмі незвычайныя кнігі, — акуратна заўважыла Аліса.

— Ты можаш прачытаць іх усе, калі захочаш.

— Баюся, мне не хопіць на гэта часу.

— Час — паняцце абстрактнае. Яго ў цябе больш, чым ты думаеш. Юрась, зрабі нам, калі ласка, гарбаты. Заварка ўжо ў імбрыку.

92

часта з'яўляўся ў нашай вёсцы. Крыху маладзейшы за мяне, але ўжо тады быў з сівымі скронямі. Памятаю, у яго былі дзіўныя вочы, шэрыя ды халодныя, нібы лёд. Блукаў па вёсцы, шукаў кагосьці. Часам зазіраў ды цікавіўся, дзе мая жонка. Я казаў, што памерла. Ды ён наступны раз зноў спытваў. Я спачатку хацеў яму пысу начысціць, думаў: нейкі каханак маю Марылю шукае. Але аднойчы ён мне распавёў, што на паляванні сына згубіў. Той аддзяліўся ад групы, заблукаў у лесе ды так і не знайшоўся.

— А чаму потым перастаў хадзіць? Знайшоў?

— Не ведаю, Ліска. Ён спярша радзей стаў з'яўляцца, ні пра жонку больш не пытаў, ні пра сына свайго. Проста ў госці заходзіў, гарбаты папіць. А потым падарыў вось гэты сімвал ды развітаўся са мною. Сказаў, што мяне ніхто больш не патурбуе. А я б можа і рады быў, каб мяне хто турбаваў, — мужчына сумна засмяяўся.

— Дзядуля, прабач мне, калі ласка, але бабуля сапраўды памерла? — у галаве віравалі думкі і Аля адчувала сябе ці то дэтэктывам, ці то шпіёнам, які спрабуе скласці дэталі і кавалкі падзей у адну карціну.

— Яна пайшла журавіны збіраць ды ўвалілася ў твань. Мы так і не знайшлі яе, Ліска. Толькі рэчы. Але яна б прыйшла дадому, калі б магла… Я ўпэўнены ў гэтым.

89



— Можа ты яшчэ памятаеш, як той вандроўнік апісваў свайго сына?

— Высокі, казаў, хлопец. Валасы светлыя кароткія, вочы зялёныя, твар добры.

Аліса напружылася ды балюча сціснула адной рукой другую. Перад вачамі зноў паўстаў яе лясны знаёмы. Светлыя валасы, уважлівыя арэхава-зялёныя вочы, і добры, крыху нават дзіцячы твар. А самае галоўнае: Перунова зорка, вышытая на скуранoй



куртцы. Няўжо яна сустрэла зніклага сына таямнічага вандроўніка? Чаму ж ён зусім не пасталеў? І няўжо ўвесь гэты час бадзяўся па лесе? Мо прывід які? Але чаму яго так усхваляваў лёс Алісы? І чаму так напружыла з'яўленне Юрася? Юрась! Аля напружылася яшчэ больш. Ён жа таксама светлы! І вочы ў яго зялёныя, і твар добры. Ён нават вышэйшы за таго дзівака ў скуранoй куртцы.

— Дзядуль, а ката вандроўнік не шукаў?

— Ката, Ліска? Не, ката не шукаў.

Нехта з гэтых двух дакладна сын таямнічага вандроўніка — заставалася толькі вырашыць, хто менавіта. Да ўсіх жыццёвых пытанняў ды загадак дадалася яшчэ адна, і дзяўчына цвёрда вырашыла знайсці на яе адказ.

***

Агнія ўпэўнена пераскоквала праз карані дрэваў, цягнучы за сабой сястру.

— Табе там спадабаецца, я абяцаю.

За імі следам ціха і мякка, нібы кот, ішоў Юрась. Часам, калі Агеньчык забывалася на шлях, шэптам падказваў ёй накірунак. Малая была ў выдатным настроі. Аліса нарэшце стала больш цярплівай ды ўважлівай да Юрася, вакол панавала зялёна-імшанае княства лесу, а наперадзе іх чакала сапраўдная хатка вядзьмаркі, якую так не цярпелася паказаць сястрычцы.

— Ёсць тут хто? — шэптам паклікаў ён.

З-пад вады з'явілася зеленаватая галава. Гусіная скура, азызлы твар, ледзь заўважныя маленькія вочкі ды жудасная ўсмешка з вострымі няроўнымі зубамі.

— Дзяўча-а-аткі, — працягнула істота, высоўваючыся яшчэ больш.

Аліса, крывячыся, разглядала тонкія слабыя рукі ды вялізны, нібы поўны вады, жывот мужчыны. Ад нячысціка пахла тванню ды нясвежай рыбай.

— Я так люблю дзяўчатак, — ён у захапленні пляснуў у далоні. — Пойдзеце да мяне ў госці?

— Сціхні, Баламуцень. Можаш нават не спрабаваць скарыстаць сваё чараўніцтва, на іх яно не падзейнічае. Дзе Ціхоня?

— Скуль я ведаю? — пакрыўджана адказаў той.

— Ну, ён жа не мог з возера нікуды знікнуць, праўда?

— Хай бы лепш! Не дазваляе жанчын зацягваць.

— Які нягоднік. Кліч яго хутка. Скажы, Вядзьмарка размову да яго мае.

Калі Баламуцень з буркатаннем апусціўся пад ваду, Агнія шэптам пацікавілася:

— Хто такі Ціхоня?

— Гэта той жа вадзянік, малеча, — з Агеньчыкам Юрась размаўляў куды пяшчотней, чым з нячысцікам. — Яны розныя бываюць: вірнікі, амутнікі — ад вадаёму ўсё залежыць. Тут вось ціхае лясное возера, таму і ўладарыць у ім Ціхоня.

96

Юнак пакорліва скіраваўся выконваць загад. Жанчына ж апусцілася на лаўку каля печы ды ўсадзіла побач з сабой Агнію.

— Юрчык цябе не крыўдзіць, малеча?

— Не, ён выдатны сябар.

— Тое добра. Бо яму вельмі патрэбна ваша дапамога. І мне таксама. Магу я прасіць вас пра дапамогу?

— Канешне! — шчыра згадзілася Агнія.

— Гледзячы ў чым, — праціначы сястру суровым позіркам, адрэзала Аліса.

Вядзьмарка счапіла рукі ды пранікнёна вымавіла:

— У кожным лесе жыве вядзьмарка, якая даглядае за ім, падтрымлівае чысціню і спакой. Але ў маім лесе надта шмат рознай міфічнай драбязы, і я не паспяваю з усімі кантактаваць. Можа, вы маглі б быць маімі пасланцамі, дэлегацыяй, так бы мовіць? Знаёміліся б з істоткамі, зведвалі б, як іх жыццё-быццё, а потым мне распавядалі. Нічога небяспечнага ці пагрозлівага. Тым больш, з вамі заўсёды будзе Юрась. Што скажаш, Аліса?

Цяпер надышоў час Агніі праціначь сястру позіркам і ўсімі сродкамі паказваць, што тая мусіць даць станоўчы адказ.

— А ў вольны час ты можаш піць гарбату і чытаць гэтыя кніжкі. Тут шмат цікавага.

Аліса якраз задумліва гартала старонкі, калі, нібы знарок, перад вачамі мільганула Перунова зорка.

93

Яна адкрыла запіс і прабеглася па ім вачыма: «Дундаравы Ваяры (інакш: Ваяры Перуна) — аб'яднанне старажытнага паходжання…»

— Я згодна. Мы паспрабуем, — імгненна адказала яна, не выпускаючы з рук запаветную кніжку.

## ПЯТАЯ

Аліса спакойна ішла следам за Юрасём ды Агніяй, якія весела, узбуджана гутарылі. Які ж ён усё яшчэ дзіцёнак! Таму яны і знайшлі так лёгка агульную мову. І ён жа не дурань, не. Нельга сказаць, што ў яго ўзровень развіцця сямігадовага дзіцяці. Хутчэй наадварот — ён хоча адчуваць сябе такім. Нібы яму не хапіла дзяцінства, нібы ён не нагуляўся.

— Ты памятаеш сябе ў дзяцінстве, Юрась? — акуратна пацікавілася яна.

— Не. Напэўна, гуляў з травінкамі ды клубочкамі.

— Ты быў кацянём? — замілавана перапытала Агнія.

Ну, канешне, што яшчэ яе можа цікавіць ці турбаваць? Зараз уяўляе, як ціскалася б з ім ды гуляла з тым жа самым клубочкам.

— Я пярэварацень. Чалавек – усяго толькі маё другое аблічча. Не першае.

— Тады чаму мы заўсёды бачым цябе чалавекам, а звычайныя людзі — катом?



— Таму што я так хачу, — не паспелі дзяўчаты міргнуць, як замест Юрася перад імі сядзеў шэры з чорным вухам кот ды ледзь варушыў даўгімі вусамі. Вярнуўшыся да чалавечага аблічча, ён пацікавіўся: — Чаму пытаешся?

— Дзядуля распавёў, што нейкі вандроўнік шукаў у вёсцы сына, які па апісанні вельмі падобны да цябе.

Юрась абыякава паціснуў плячыма.

— Мой бацька, канешне, пацягайла, але наўрад ці шукаў бы нешта акрамя халяўнага кавалка кілбасы, — па твары яго прабег цень смутку ды старой крыўды, кулакі сціснуліся.

Аліса, якая ўжо амаль вырашыла, што лясны юнак сапраўды зніклы сын таямнічага вандроўніка, раптам злавіла сябе на думцы, што зноў сумняваецца. Нешта было ў Юрасі такое, чаго не было ў тым хлопцы. Нейкае пачуццё закінутасці, згубленасці. Не, у тых зялёных вачах гэтага не было. У тых зялёных вачах было нейкае іншасветнае веданне, была ўпэўненасць, была моц. Дзяўчына ажно збянтэжылася, калі зразумела, што цёпла ўсміхаецца, думаючы пра яго. Што з ёй адбываецца? Няўжо яна магла закахацца ў чалавека, якога бачыла адзін раз у жыцці? Ноччу, у лесе, у не самых лепшых абставінах. Не, гэта проста нейкая лухта. Дурасць.

Наперадзе між дрэваў паблісквала ў апошніх чырвоных промнях сонца паверхня ляснога возера. Юрась адразу ж зрабіўся сур'ёзны ды ціхі, мацней сціснуў далоньку малой ды акуратна падышоў да берага.

# Secret Files. Нібыта цікава



Толькі ўявіце, вы прыходзіце ў музей наведаць бацьку, а ён знік; вырашылі адпачыць, а нейкая секта прадказвае апакаліпсіс; рыхтуецеся да вяселля, а жаніха (або нявесту) выкрадаюць. Не шанцуе, іншымі словамі. Але гэта тыповыя перашкоды ў жыцці Ніны Каленкавай, галоўнай гераіні трылогіі Secret Files.

Кожная гульня ўяўляе сабой новую гісторыю з двума асноўнымі героямі: Нінай Каленкавай — дачкой былога рускага навукоўца, і Максам Грубергам — геолагам, музейшчыкам і даследчыкам з Берліна. Знаёмяцца яны ў першай частцы, калі дзяўчына прыязджае да бацькі на працу, але не знаходзіць яго там. У гэтай гульні вы даведаецеся даволі шмат пра Тунгускую катастрофу ў 1908-м, з чаго і пачнецца сюжэт.

У другім эпізодзе Ніна вырашае адправіцца у круіз, ды Сусвет падае знакі, што гэтая паездка ёй запомніцца: спачатку серыя катастроф; перад тым, як Ніна садзіцца на карабель, спалоханы мужчына кажа ёй некалькі слоў і трапляе пад машыну. Далей болей: багаж пераблыталі, хтосьці корпаецца ў яе каюце, пасажырка расказвае, як Ніна на дзверы кідалася… Але ўсе падзеі падказваюць, што галоўнай гераіні давядзецца нешта прадухіліць.

Трэцяя частка — нешта зусім незразумелае: змяшаліся ў кучу навукоўцы і хакеры, старажытнагрэчаскі матэматык Архімед і італьянскі мастак Леанардо да Вінчы, матэматычныя формулы і містычныя фігуры з першай часткі.

У першых двух эпізодах трэба пазбавіць свет немінучай пагрозы, знаходзіць каштоўныя рэчы і адказваць на пытанні Ніны. Тое ж і ў трэцяй частцы, але некалькі асаблівасцей акрэслім… У самым пачатку вам прапануюць выбраць унікальнае меню, таксама ёсць магчымасць вызначаць складанасць міні-гульняў, якія ўваходзяць у сюжэт, і часам шкадуеш, што гэта на квэст у цэлым не распаўсюджваецца. Ёсць чатыры альтэрнатыўныя канцоўкі. Напэўна, пастараліся стваральнікі пасля няўдалай другой часткі.

Трылогія радуе лакалізацыямі. Вы ні разу не вернецеся назад па сюжэце. Графіка захапляе, але героі і пейзажы існуюць у дысгармоніі. Ніна падобная да рудавалосага манекена з няўдалымі жартамі. Ад пафасу некаторых герояў проста ванітуе. У трылогіі толькі два-тры персанажы вылучаюцца сярод астатніх. Што датычыцца музыкі, яе практычна няма, але магчымасць пачуць натуральныя гукі — ёсць.

Геймплэй зусім просты. Нават чалавек, які ніколі не забаўляўся квэстамі, разбярэцца: трэба збіраць карысныя рэчы і розны хлам, камбінаваць прадметы і выкарыстоўваць іх.

Гульня ў цэлым нібыта цікавая…

***Вераніка Гамзюкова***

# Бярозка

становучыя эмоцыі



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*

***Выдаецца са снежня 1924 года***

***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Дзянісава





Адрас рэдакцыі

Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.



Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку 09.06.2016 г.
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,58.
Тыраж 1567 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь






Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

*На першай старонцы вокладкі — фота Сашы Савіч.*

## ПЫТАННІ ДЛЯ ЗНАХОДЛІВЫХ:

**1.** Гэты чалавек дзясяткі разоў кожны дзень валасы стрыжэ, але ўсё роўна з доўгімі валасамі ходзіць. Як такое магчыма?

**2.** Аднойчы за сняданкам дзяўчына незнарок упусціла свой мабільнік у кубачак з кавай, але ён застаўся сухім. Чаму?

**3.** У якім выпадку мы глядзім на лічбу «2», але кажам «дзесяць»?

**4.** Адзін амерыканец цэлы год купляў аўтамабілі па 10 тысяч долараў за аўтамабіль, а потым прадаваў іх па 5 тысяч долараў за аўтамабіль. Праз год ён стаў мільянерам. Як яму такое ўдалося?

**5.** Як па-французску сказаць «пыл»?




## «ВОЖЫК» АБВЯШЧАЕ КОНКУРС КОМІКСАЎ ПА МАТЫВАХ БАЕК КАНДРАТА КРАПІВЫ

Не менш за тры кадры і не больш за дзесяць. Фармат малюнка — А4. Ад аднаго ўдзельніка — адзін, два або тры коміксы. Прыём работ — да 27 лістапада ў папяровым і электронным выглядзе па наступных адрасах:
200005, г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 39
E-mail: a-vojik@yandex.by
Падрабязнасці на
**http://zviazda.by/be/edition/vozhyk**

## Падарунак ад  Вожыка

Часопіс сатыры і гумару



*Аўтар Аляксандр Каршакевіч*

Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Ён працуе цырульнікам.
2. Кубачак быў напоўнены кавай у зярнятах.
3. Калі мы глядзім на гадзіннік, які паказвае дзесяць хвілін якой-небудзь гадзіны.
4. А ён раней быў мільярдэрам.
5. Пудра.

# Каляндар Бярозка

Даты і падзеі

Што ўспомніць, чым заняцца, што прачытаць

Ліпень



## Ягадныя сняданкі

... і шмат марожанага. І можна купіць яго ў вядзерцы, і праслоіць ім, стварыўшы незвычайныя сандвічы, аўсянае пячэнне, або салодкія крэкеры, або хрусткія вафлі, або духмяныя мяфлі, або арэхавыя мерэнгі... Трошкі прымарозіць — і ласавацца. Эксклюзіў!



## Духмяныя зёлкі

... і прыцягальныя гербарыі. Збіраць на лузе за ракой пад пільным наглядам стракозаў духмяныя зёлкі, каб зімою частаваць сяброў гарбаткай — самы летні занятак. Вывучаць іх назвы, лацінскія і народныя, — карысна для кругагляду. Што яшчэ? Іх можна сушыць не толькі для збору ў мяшэчкі і слоічкі, але і для таго, каб стварыць з іх гербарый. Вялікай аматаркай гэтай справы на нашай зямлі былі доктар Жан Эмануэль Жылібер і пісьменніца Эліза Ажэшка. Пачытай пра іх, дружа.



## Карункавы настрой

... і вяночкі з кветак. Плесці іх з рамонкаў, валількоў, канюшыны і лубіну — суцэльная радасць душы і карысць настрою. А вывязваць кручком карункі для палічак у бабулінай кухні або сурвэтку на маміну камоду — значыць, ствараць для любімых сапраўдны цуд.



**12**

Дзень Святых Пятра і Паўла. Раней казалі, што зязюля куе толькі да гэтага дня, а потым замаўкае, быццам ячменным каласком падавілася. І праўда, ячмень у гэты час ужо каласіцца.



**15**

Сто гадоў Алаізе Пашкевічанцы, Цётцы. Пачытай, як яна пра грыбы напісала:

Мухаморы, як жаўнеры,  
Ля дарогі сталі ў рад,  
Гараць жарам іх каўнеры,  
Шапкі блішчаць так, як гад.  
Баравік — грыб над грыбамі —  
Аб пень сьпёрся, злы стаіць,  
Робіць суд ён над братамі,  
Годзіць, просіць згодна жыць.  
Суравежкі з казьлякамі  
Вядуць сварбу ў добры лад.  
З страху рыжык з масьлякамі  
Ў мох зашыцца быў бы рад.



## Цёплыя назвы, патрэбныя словы

Што такое гідраніміка? А мярэжа? А хто такія энтамолагі? А як раней называліся рэкі, якія цякуць і цяпер? А што гэта значыць, калі буслы выкідваюць з гнязда яйка? А пра што загадка: «Скубу не пер'е, ем не мяса»? Не ведаеш? А хочаш ведаць? Тады вечарам, як наадпачываешся ля рэчкі ці возера, нагуляешся ў футбол ці даганялкі, набадзяешся паўз сцены старога горада або закінутай панскай сядзібы, наласуешся ўдосталь папкорнам у парку, накатаешся на атракцыёнах, наглядзішся 3D-фільмаў, напасвішся з дзедам кароў, навалацужышся з братам у грыбах-ягадах — садзіся і чытай кніжку. Вось гэтую, напрыклад.





ISSN 0320-7579



9 770320 757007 16006